# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ



## БАРАЦЬБА ЗА ХЛЕБ— ЗА СОЦЫЯЛІЗМ



**П**ершы калгасны ўраджай даў збожжа больш, чым ранейшая індывідуальная вёска. Чырвонымі абозамі ідзе хлеб у савецкія засекі.

Калгасная вёска выканае свой абавязак перад рабочым горадам.

**Н**а здымку: элеватар, пабудаваны 1930 г. ў Воршы.

N 19-20

Цана 15 кап.



# БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

## ПАДПІШЭЦЕСЯ

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКУЮ І ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНУЮ ЧАСОПІС НА 1931 ГОД

# МАЛАДНЯК

**IX ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ**

| | |
|---|---|
| **„МАЛАДНЯК“** | зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру |
| **„МАЛАДНЯК“** | на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры |
| **„МАЛАДНЯК“** | будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1931 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1931 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік |
| **У МАЛАДНЯКУ** | будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік |

## У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі

**Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ У 1931 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | | На 6 м-цаў | | На 3 м-ца | |
|---|---|---|---|---|---|
| 5 | — | 3 | — | 1 | 50 |

ЦАНА Ў РОЗЬНІЧНЫМ ПРОДАЖУ 50 КАПЕЕК

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** у аддзеле падпісных і пэрыядычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79, кіёскамі, кнігарнямі і ўпаўнаважанымі БДВ, ва ўсіх паштова-тэлеграфных канторах і крамах спажывецкай каапэрацыі.

**Аддзел падпісных і пэрыодычных выданьняў.**

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

Кастрычнік 1930

N 19-20

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 63.
Тэл. 17-09



ІНДУСТРЫЯ

УН ОН-ФОТО




*Скарочаны ўрывак з апавяданьня Сэрафімовіча*

Малюнкі Вал. **ВОЛКАВА**

* * *

...Мяне абудзілі цяжкія грымотныя выбухі. Было цёмна. Я прыпадняўся. Дзеці спалі. Нянька нешта рабіла ў суседнім пакоі. Гарматная кананада мацнела. Дом тросься. У перапынках чутно было, як ляскаталі кулямёты і рассыпаліся карабінавыя залпы. Скрыгаталі жорсткія гукі, нібы палосы жалеза цягнулі па жалезе, цягнуліся ў імгле, што стаяла за акном, і гэта наводзіла страшэнную нуду.

Раптам: чок. З кароткім гукам куля прасьвідравала дзьве шыбы і ўелася ў сьцяну. Тынк з шорахам пасыпаўся на падлогу.

Я споўз на падлогу, апрануўся на падлозе і ракам запоўз да дзяцей. Абодва хлопчыкі ціха спалі, нічога не надазраючы. Я схапіў іх і па падлозе пацягнуў у другую палову кватэры, якая выходзіла вокнамі ня ў той бок, адкуль стралялі.

У заднім пакоі сабраліся служкі, гаспадары з дзяцьмі. Мы ляжалі, прытуляючыся, на канапах, на крэслах.

Увесь час чуваць было: чок, чок... Абсыпаўся і падаў тынк, пакрываючы падлогу белым налётам.

Пачынала сьвітаць. Час поўз нудна, павольна. Гарматы грымелі. Жанчыны, схаваўшы твар у рукі, плакалі. Дзеці зьдзіўленымі вачыма моўчкі паглядалі на незвыклыя абставіны.

— Хадзем, паглядзімо,—сказаў гаспадар, з дрыжыкамі на вуснах. Нахіляючыся, мы прайшлі ў мой пакой, прытуліліся ў куток і пачалі глядзець наўкос у вокны. Стала зусім відна. З нашага пятага паверху вуліца і Прэсьненскі мост, з якога стралялі, відаць былі, як на далоні.

— Ды яны штурмуюць дамы...—крыкнуў гаспадар, белы, нібы палатно.

Сапраўды, кожны раз, калі з жарла гарматы вырывалася доўгая агнёвая стужка, у адным з дамоў выбухаў клубок дыму, пырскамі разьляталіся асколкі, сыпалася цэгла, чарнелі праломы, мёртва глядзелі правалы замест акон.

Пад нашай падлогай нешта здрыгнулася. Густы воблак зеленаватага дыму праплыў, аднесены ветрам, і засланіў на хвіліну ўсё перад акном. Пад намі, у кватэру на чацьвертым паверсе, папала граната.

Як вар'ят, я кінуўся да хлопчыкаў і пабег з імі па калідоры. За мною беглі гаспадары з дзяцьмі, служкі. Кулі ўвесь час чокалі, і асыпаўся тынк. Трэба было зьбегчы па сходах аж з пятага паверху. Вялізныя вокны, што асьвятлялі іх, пярэсьцілі ад дзірак, прабітых кулямі. Зыркія агні гарматных стрэлаў, якія выбухалі на мосьце, мігацелі ў вачох. З усіх дзьвярэй кватэр выскаквалі ў адной бялізьне перапужаныя людзі і беглі ўніз. Дзеці, дзяды, жонкі, мужчыны—усе пераблыталіся ў гэтай сумятні.

Я ўбег з хлопчыкамі на руках у сутарэньне. Было цемнавата, вільготна, і пахла мышамі. Нявыразна вызначаліся абрысы людзей, якія сядзелі, стаялі, хадзілі ўзад і ўперад. Гукі стрэлаў глуха далятаюць сюды. Страшэнная, невядомая ўтома адчувалася ў кожным суставе. Рукі і ногі нібы адвальваліся. Я сеў на нейкай скрыньцы. Трэба было сабраць думкі.

Мне ўспомнілася, як бег я па сходах, прыціскаючы дзяцей, і ў аднаго за адным расчэпліваліся рукі, і абвісала худзенькае зьнясіленае цельца. Я вышаў, перабег пад кулямі двор і пачаў уздымацца ў сваю кватэру: трэба было ўзяць хлопчыкам цяплейшую вопратку: у сутарэньні было вільготна.

Трушчачы тынк па падлозе ў пустых пакоях, я прытуліўся да сьцяны і зірнуў праз акно ўніз.

Там, дзе яшчэ гадзіну перад тым стаялі вялізныя дамы, у якіх было шмат дзяцей, жанчын, у якіх ішла праца, клопат і жыцьцё,—бушавала мора агню.

У гарачых вокнах, у полымі зіхатлівага сьвятла скакала, нібы шалёная, мітусілася, крывава хістала вострымі галовамі, хітра высоўвалася і хавалася нешта, падобнае на дзень, і ў дрыжыках мігацелі, зьяўляючыся і зьнікаючы сьветлыя адзеньні. І гэтулькі было ў гэтым нястрыманага мігатлівага, зьмяінахітрага, што я часам з жахам бачыў жывыя істоты. Спрытна, павар'яцку—весела гулялі ў таемна-неразумелую гульню, і ўсё ня ўнімаліся гэтыя нястрыманыя, дзікія скокі.

Я аслупянелы глядзеў на гэты жахлівы малюнак, як раптам ад сухога кароткага цоканьня я здрыгануўся: куля, прабіўшы шыбу, расшчапіла дрэва, працяла праз двое дзьвярэй і ўпілася ў сьцяну суседняй кватэры. Трэба было ўцякаць...

* * *

У сутарэньні, як і раней, стаяў пануры шэпт. Цяпер тут нянька апавядала дзецям байкі.

— Вось шэры воўк і гаворыць Івану царэвічу: „Іван царэвіч, садзіся ты на мяне, панясу я цябе праз лугі і лясы, праз горы і дубровы, праз моры і рэкі“...

Дзіцячыя вачаняткі шырока глядзяць на зморшчаны твар:

— Няня, ты чаго плачаш?

— Божухна мой, няўжо-ж мы ня выбярэмся адгэтуль?— шэптам праз сьлёзы і ў роспачы гаворыць хворая на ложку.

— Не хвалюйся, любая...табе так хваляваццa шкодна,— гаворыць, нахіляючыся над галавою, брат.

— Шкодна хваляваццa,—горка ўсьміхаецца яна.

Глуха далятаюць цяпер недзе здалёку, з другога боку стрэлы гармат.

— А шэры воўк адкінуў палена, ды як паімчыцца скокам...

— Што такое палена?—зьвініць тоненькі галасок.

— Ціха! гэта воўчы хвост!

Ніхто нічога ня еў. Дзецям даюць халодную гарбату.

— Не, гэтак немагчыма. Трэба адгэтуль уцякаць.

— Дык вось, ідзеце ды даведайцеся.

— Куды-ж я пайду—страляюць... Ідзеце вы!

— Я таксама пайшоў-бы, але-ж... дзеці. Што яны будуць рабіць? Раптам... разумееце...

— Я таксама пайшоў-бы, але маці ў мяне... У Туле... адна надзея...

— Трэба дворніка, Якуб!

— Калі ласка.

— Схадзі даведайся—ці можна нам адгэтуль выбрацца?

Усе разам накідваюцца на дворніка.

— Ды гэта-ж немагчыма...

— Не сядзець-жа нам тут, пакуль расстраляюць, або спаляць...

— Чорт ведае, што такое... Трэба-ж нешта рабіць, чаго-ж ты чакаеш?

Дворнік выходзіць.

— А я вось што скажу,—чуваць глухі роўны голас,—я вось што скажу: пажар і да нас падбіраецца...

— Ах, кіньце, кіньце, калі ласка... Цярпець не магу, калі пачынаюць.

— Які там пажар... Куды падбіраецца?... За дзесяць вёрст ад нас. Дом наш, дзякаваць богу, вялізны, мураваны і стаіць асобна зусім...

— Вы—заўсёды!...

Яго проста такі ненавідзяць. Але ён, памаўчаўшы, таксама, як і раней, роўна і глуха кажа:

— Асобна!.. Але-ж платы цягнуцца аж да нашага. А каля плоту ў нас, самі ведаеце, якая куча вугалю... Загарыццa—вушакі, дзьверы, падлога пачнуць гарэць... А то--мураваны.. Ну, а тады ня выскачыш,—выхад адзін, каля вугалю, а палезем у вакно, у завулак,—першых расстраляюць, самі разумееце.



...Куля прасьвідравала дзьве шыбы і ўелася ў сьцяну...



...Я схапіў дзяцей і пабег з імі...

Усе разумеюць: ён гаворыць праўду, але ўсё-ж такі яго ненавідзяць; адварачваюцца, ня хочуць гаварыць.

Уваходзіць чалавек у шапцы і хвартуху.

— Вы хто такі?

— Прадавец з крамкі дробнага гандлю...

— А-а, з тае, што гарыць... Ад гранаты загарэлася?

— Ад гранаты!—злосна гаворыць прадавец.—Ад гранаты не загарэлася-б. Ніводзін дом ад гранаты не загарэўся. Пасьля страляніны, як ачысьцілі ўвесь квартал ад дружыньнікаў, прышлі салдаты. Ну, мы ўсьцешыліся,—значыць супакоілася ўсё. Уваходзіць афіцэр і кажа: „Выходзьце ўсе з дому“. Мы рот разявілі—„Выходзьце зараз, паліць будзем“...

Пачалі прасіць... „Няма нам калі чакаць, зараз-жа выходзьце“. Ледзь гаспадар на каленях вымаліў чатыры скрынкі тавару ўзяць. Салдаты зараз-жа аблілі газаю ды запалілі ў пяці мясцох. А колькі кватарантаў,—поўна, і ва ўсіх маёмасьць.

Нешта сьляпое, сьцюдзёнае і ліпкае запаўзала, паступова напаўняючы сутарэньне.

— А дзе ж дворнік?.. Божухна мой, дзе-ж гэта дворнік падзеўся?...—далятаў гістэрычны шэпт.

— Якуб, дзе ж ты прапаў? Што-ж ты не даведаешся, калі нам можна будзе адгэтуль выбрацца?

— Даведаешся, дзе там!... Ідзеце даведайцеся. Я вось высунуўся, а салдат мне як ахнуў... Я кажу: дазвольце растлумачыць, а ён як ахне—аж вугал брамы адкалоў...

* * *

Зноў дышыць цішыня, зноў шэпт, зноў нібы нябожчык у хаце.

Я дастаю гадзіньнік, гляджу, праціраючы вочы, зноў гляджу.

— Восьмая!

— Ня можа быць... ня можа быць...—праносіцца жахлівым шалясьценьнем.—Ваш стаіць.

— Восьмая...

— Без пяці восем...

— Дзесяць хвілін на дзевятую...—прыдушана чуваць з усіх бакоў, і ўсе прыкладаюць гадзіньнік да вуха.

І тады ўсе пачынаюць маўчаць і сядзяць нярухома, нібы каменныя. Дзеці па-ўсялякаму сьпяць у розных мясцох.

Усе маўчаць, але сутарэньне поўна дзіўных шапатлівых гукаў, шолаху неспакойнага, трапятлівага, трывожнага патрэскваньня. Пажар разгараецца, вядзе сваю ўласную гутарку і шыпеньне. Трэск дрэва, гукі ад падзеньня цаглін па-зладзейску ўпаўзаюць, прыглушаныя, прыціснутыя цяжкімі скляпеньнямі, тоўстымі сьценамі, і напаўняюць глухую цемру трывожным гоманам роспачы і тугі.

Нехта ўсхліпвае, прыдушана галосіць. Больш, больш. Вырываецца лямант нястрыманы, запаўняе сутарэньне, заглушаючы шолах і шэпт у ім. Маладая жанчына ўпала на калені, схавала твар у далоні і плача:

— Навошта!.. навошта гэтае ашуканства? Каханьне, шчасьце... Калі гэта для таго, каб на тваіх вачох загінулі дзеці,—ня трэба не хачу... ня трэба шчасьця, ня трэба маны... не хачу!..

* * *

Я адчуваю страшэнную зморанасьць. Стаўлю локці на калені, кладу галаву на рукі і пачынаю нібыта драмаць. Часам мне хочацца разрагатацца, такое недарэчнае і бяссэнсавае наша становішча.



**...Я думаў, што яны пасадзяць мяне на штыхі...**

Потым пачынаю нешта сьніць, нявыразнае, і заблытанае. Змагаюся са сном, з натугаю ўздымаю бровы, адчыняю павекі, а яны зноў стуляюцца. І ўсё здаецца чырвоным, і ў гэтай густой, прыкрай чырвані адлюстроўваюцца кашлатыя чалавечыя постаці, чуваць крывавы шэпт пажару, які разгараецца, і салдаты, якія хочуць праткнуць мяне штыхамі, а штыхі згінаюцца аб маё цела, салдаты пасьпешна выпростваюць іх і ўсаджваюць зноў. Я крычу ім: „Хутчэй!.. хутчэй!".

І нехта крычыць над маім вухам: „Хутчэй... хутчэй!" і трасе мне за плечы. Я расплюшчваю вочы: чырвоная столь, у чырванаватым сузмроку... галовы, рукі, ногі, быццам адарваныя ляжаць у непарадку. Я зноў заплюшчыў вочы. Але мяне зноў трасуць. Устаю.

Стаіць дворнік. Твар устрывожаны.

— Салдаты... аж страх колькі... З акна ў вартоўню заглядаюць... Кажуць, зараз расстрэльваць дом будуць...

Варушацца раскіданыя ў непарадку рукі, ногі, галовы; здусюль устаюць людзі, перапалоханыя, заспаныя.

— Ды ня можа быць. За што будуць расстрэльваць?.. Плот-жа раскідалі...

— За што? А за што расстрэльвалі цэлы дзень?

— Трэба каго-небудзь паслаць.

Усе вочы зьвяртаюцца на ўласьніка спакойнага глухога голасу. Ён устае і выходзіць. Потым праз хвіліну прыходзіць назад.

— Там не салдаты, а зьвяры: я думаў, што яны мяне на штыхі пасадзяць...

— Дамагайцеся, каб вас адвялі да афіцэра.

Зноў выходзіць. Чакаем. Праходзіць дваццаць хвілін, паўгадзіны... Нуднае чаканьне перарастае ў непакой і ў заклапочанасьць. Што хвіліны глядзяць на гадзіньнік.

— Няма яго...

Прыслухоўваюцца да самага малага скрыпу, але крокаў ня чуваць. Адна і тая-ж жудасная думка паўзе ў галаву: „Забіты..."

— Яго забілі...—чую я шалясьценьне над сваім вухам.—Не кажэце толькі голасна...

...Але вось крокі. Усе з хвіліну напружана ўслухоўваюцца. Можа салдаты? Ён!

Кідаюцца.

— Што...

— Сказаў?

— Будуць?..

Ён роўна гаворыць тым самым спакойным глухім голасам:

— Вывелі мяне з панадворку. Увесь час штыхі на мяне. Па завулку ўсё асьветлена пажарам, ні душы... „Куды-ж вы мяне вядзіцё"—„Ідзі"... Мне пачало здавацца,—прыколюць дзе небудзь каля плоту. Адным больш, адным менш... Колькі такіх трупаў валяецца па Маскве. Вывелі на вуліцу. Сьвятло, усёроўна, як удзень. Стаіць афіцэр. Твару я ў яго ня бачыў—няма твару, адны вусы, дагледжаныя, вялізныя, на бровы глядзяць. Кажу яму: дзеці, жанчыны, хворыя... Ён стаіць да мяне сьпіною. Потым нядбайна працэджвае праз зубы: „Калі завесяць вокны, калі ніхто ня будзе падыходзіць да іх, ніхто ня выйдзе з дому, і калі... з боку дому і панадворку ня будзе ніводнага стрэлу, мы... ня будзем расстрэльваць"...

Я з журбой гляджу на дзяцей і шукаю вачыма месца, куды-б іх схаваць, калі пачнуць страляць у вокны. Але тут няма ніводнага ўтульнага кутку: брук на адным ўзроўні з вокнамі, і кулі абсяюць увесь абшар. Цяпер выгадней было-б падняцца ў верхні паверх. Але паказацца ў дзьверох—гэта значыць быць расстраляным. Мне зноў хочацца зарагатаць. Я не гляджу на гадзіньнік, прытуляюся і засыпаю моцным, бяз сноў, чорным сном.

—...Сядзіць, сядзіць за рогам, дзе плот выходзіцца з нашым домам... Там выгадней яму, ня відаць...

Гэты жахлівы шэпт улазіць у мае вушы і распалёнымі іскрамі прасочваецца ў мазгі. І на мяне глядзяць хітра-злыя вочы з-пад хітра паднятых броваў і голы зморшчаны твар, увесь скрыўлены хітрай і злоснай ухмылкай.

—...Ён чакае толькі, каб памучыць нас... Ён пацяшаецца з нашага страху, з нашае пакуты, з нашага чаканьня...

— Ды нашто яму...

—...А!.. хі, хі, хі, як-жа гэта, навошта?..

Увесь чорны абвуглены... Усё згарэла: сталы, лыжкі, вопратка, дзеці, жонка... І ён ня можа спакойна глядзець на нашых дзяцей... гнязьдзіцца там... і...

І ў мае вочы блізка-блізка ўплываюцца хціва бліскучыя зрэнкі з-пад коса ўзьнятых броў, і зазірае голы, голы, зморшчаны скрыўлены твар.

—...І выстраліць два разы ў паветра.

Я страсаю кручкаватыя кастлявыя пальцы, якія тармасяць мяне за плечы.

„Настане дзень, і ўсё скончыцца, і ўсё будзе, як даўней, але застанецца шаленства"...

. . . . . . . . .

Ніколі не сустракаў я з гэткім жахам шчасьця золак дня, як цяпер. Я скочыў і сьпешна апрануў дзяцей.

— Ну, што, ці можна выходзіць?—з заміраньнем запытаўся я, прыслухоўваючыся да рэдкіх стрэлаў.

— Бязумоўна, ручацца нельга...—кажа дворнік.—Рукі толькі ўгору, і зараз трэба... Э, зноў пачынаюць...

Я хапаю за рукі хлопчыкаў і выбягаю з сутарэньня. Абвугленае вогнішча і руіны зьдзіўляюць мяне.

Сіберны мароз займае дух. Маленькі пазяхае, нібы злоўленая рыба, задыхаючыся і выпучыўшы вачаняткі, з усяе моцы бяжыць побач, семянячы ножкамі.

— Тата,—гаворыць старэйшы, перапалохана аглядаючыся, і таксама бяжыць трушком каля мяне,—у нас выстраляць?

— Не, не... Толькі хутчэй... хутчэй, дзеткі... Хутчэй, калі ласка...

У плот суха шчоўкае ашалелая куля. Кожную хвіліну я чакаю ззаду залп. Нэрвова рыпіць пад нагамі сьнег.

— Хутчэй... хутчэй да рогу... да рогу хутчэй...

Засталося пятнаццаць... дзесяць... пяць крокаў...

Мы пабеглі...

Мы заварачваем...

Мы выратаваны...



**...Навошта ...навошта гэта ашуканства...**

# Старонкі гісторыі



*(1905 год па Беларусі)*

Нарыс Б. Клімчука

Могілкі, крыжы, могілкі бяз крыжоў, ямы бяз усякіх адзнак аб іх паходжаньні і зьместу, могілкі і курганы... Багата, багата іх раскінута па палёх і лясох, шляхох і сьцежках нашай вялікай, шматпакутнай краіны. Колькі ахвяр палягло ў барацьбе за вызваленьне, за права на жыцьцё, за права на людзкае існаваньне. Стагодзьдзямі змагаліся працоўныя масы былой царскай Расіі за волю, за хлеб, за права карыстацца пладамі гарапашнай працы сваёй.

Барацьба з манархіяй, з царызмам, лёзунг „прэч самаўладзьдзе!" аднолькава гучэў па расейску, па-украінску, па-беларуску, грузінску і армянску. Яшчэ больш пакутвалі шматмільённыя масы нацыянальных краін, якія цярпелі падвойны ўціск: соцыяльны і нацыянальны. Як магутны асілак-волат—быў скаваны па руках і нагах беларускі рабочы і селянін. Ён марыў пра волю, ён марыў пра вызваленьне. Але чорная сіла рэакцыі драпежна трымала ў сваіх кіпцюрох усю краіну, якая не дарма звалася „вастрогам народаў".

Пачэснае месца займала Беларусь—Паўночна-заходні край—у агульным змаганьні расійскага пролетарыяту з самаўладзьдзем. Магутныя бальшавіцкія організацыі Бабруйску, Менску, Гомлю і інш. гарадоў і мястэчак Беларусі падрыхтоўвалі і організоўвалі масы да барацьбы.

Крок за крокам адваёўвалі рабочыя масы права на існаваньне рабочае партыі. Пад магутным ціскам пролетарскіх колён ня вытрымаў нават царска-паліцэйскі тэрор.

Ужо ў 1904 г. соцыял-дэмократычныя організацыі карысталіся гэткай вялізарнай популярнасьцю і аўторытэтам, што нават паліцыя прымушана была з імі лічыцца, а часам нават зьвяртацца за дапамогай.

Гаспадары гасьцініцы „Парыж" у Менску паведамілі паліцыю пра двух рабочых—членаў партыі. Паліцыя іх арыштавала. Тады організацыя аштрафавала гаспадароў і загадала ўжыць захады, каб рабочыя былі вызвалены. Пастанова організацыі была цалкам выканана.

Неяк організацыя аштрафавала аднаго заводчыка. Той зьвярнуўся да паліцэйскага прystава за парадай—што рабіць? Прыстаў параіў яму заплаціць грошы.

Рабочыя біржы зьяўляюцца самай цікавай формай тагочаснага масавага рэволюцыйнага руху. Біржы стыхійна ўзьніклі ў процэсе нарастаньня рэволюцыйнай хвалі. На біржах распаўсюджвалі літаратуру і лісткі. Мітынгавалі, еднаді і загартоўвалі рэволюцыйныя атрады. Біржа Менскай групы РСДРП (ці як яе тут звалі „Іскраўская" група) знаходзілася на правым баку сучаснай Ленінскай вуліцы, пачынаючы з Інтэрнацыянальнай і заходзіла аж на Савецкую. Далей пачыналася Бундаўская біржа. На левым баку Савецкай была біржа эсэраў і сіяністых.

Біржы былі відавочным паказчыкам сілы і ўплыву організацый, бо беспартыйная маса звычайна наведвала біржу той організацыі, якой яна спачувала. Агітацыйная работа на біржы вялася зусім адкрыта. Паліцыя нібы не зьвяртала на яе ўвагі. Часам бывала, што паставы гарадавы пасьля поўначы зьвяртаючыся да таварыша, што позна з трымаўся на біржы, скажа: Гэй „Іскра", час да хаты. „Бунд даўно ўжо спаць пайшоў". Ці зьвяртаючыся да „Бунду". „Бунд" разыйдзіся, ужо і „Іскра" пашла да хаты".

Яшчэ адзін характэрны выпадак з рэволюцыйнага быту тых часоў. У Бабруйскай бундаўскай організацыі быў надзвычайна актыўны працаўнік Нахка Юхвід, ці, як яго проста звазі Нахка. Нахка карыстаўся вялізарнай популярнасьцю сярод усяго насельніцтва і любоўю ўсіх рабочых. Вельмі часта былі выпадкі, што калі людзі прыходзілі да паліцмэйстэра разьвязаць якую-небудзь справу, дык той адсылаў іх да Нахке: „ідзеце да Нахка ён вырашыць гэтую справу, ён-жа ваш паліцмэйстэр".

У верасьні 1905 г. Полацкая гарадзкая ўправа прымушана была запрасіць прадстаўнікоў аб'яднага рэволюцыйнага камітэту для організацыі аховы парадку ў горадзе. Была організавана народная міліцыя. Разам з гарадавымі стаялі на пастох міліцыянэры з чырвонымі істужкамі.

Аднойчы, у часе сходу на Клецкім завулку ў Капылі, пад вакном апынуўся стражнік Раман Малевіч, падслухоўваючы, што робіцца ў хаце. Нашы вартаўнікі заўважылі гэта і запрапанавалі яму ўвайсьці ў хату. Ён вымушаны быў выканаць загад. У пакоі ён сам скінуў шаблю і рэвольвэр, стаў на калені і пачаў прасіць, каб яго не чапалі, бо ён адмаўляецца ад сваёй ганебнай службы. Ён нават стаў на стол і пачаў крычаць у голас: „Прэч самаўладзьдзе! Няхай жыве дэмократычная рэспубліка!".

Рэволюцыйныя хвалі нарасталі. Магутны гул рэволюцыйнага прыбою каціўся да сьцен фабрык, заводаў і глухіх вёсак. Узрушаная маса выказвала вялікі попыт на сьвежую інформацыю. Маса павінна была дакладна ведаць сваіх ворагаў і навучыцца як з імі змагацца. А ў першыя часы „тэхніка"—гэта значыць друкарская справа была яшчэ вельмі слаба наладжана. Хоць падпольна выдаваліся лісткі і адозвы, але ў вельмі малой колькасьці. У сярэдзіне лета 1905 г. Менская організацыя РСДРП пачала ўжываць у гэтым напрамку рэволюцыйныя мэтады: захапляла друкарні. Першы раз група таварышоў захапіла друкарню, газэты „Северо-Западный край" і пры дапамозе нашых наборшчыкаў набралі там лісткі. На набраным лістку пасьля тэксту дадаваўся гэткі надпіс: „выдрукавана ў друкарні" С.-З. Кр. па загаду Менскай групы РСДРП".

Пасьля прыходзілася вельмі часта гэткімі спосабамі друкаваць партыйную літаратуру і лісткі. Пад загалоўкам „Нелегальная прокламация в легальнай типографии". Менская газэта „Северо-Западный край" у № 790 паведамляе: 16 лістапада а 7 гадз. увечары ў друкарні На́хумова па Прэабражэнскай (зараз Інтэрнацыянальная) вуліцы зьявілася звыш 20 рабочых і ад імя Менскай групы РСДРП арыштавалі ў памяшканьні друкарні ўсіх прысутных 13 чалавек служачых і абвясьцілі, што пачынаюць друкаваць проклямацыю. Усе асобы, якія заходзілі ў друкарню ў часе друкаваньня, арыштоўваліся ў асобным пакоі. Усяго было арыштавана 25 чалавек.

Па скапчэньні набору проклямацыі „к гражданам" (адносна паштова-тэлеграфнай забастоўкі) было даручана супрацоўніку



**Група раненых у часе Курлоўскага расстрэлу.**

„Белорусского Вестника“ зрабіць карэктуру. Калі праклямацыя была выдрукавана, рабочыя пайшлі. Арыштаваныя былі вызвалены. Як нам паведамляюць група РСДРП паслала Е. Нахумаву за страчаную паперу адпаведную „ўзнагароду“.

Але адна друкарня ніколі не спраўлялася задаволіць попыт Менскай групы на друкарскую тэхніку. Прыходзілася часам захапіць адразу дзьве друкарні. У тым самым № 790 газэты „С.-З. Кр.“ мы маем гэткае паведамленьне рэдакцыі:

„Учора, а палова дзесятай увечары ў рэдакцыю зьявіліся 30 узброеных рабочых, занялі ўваход у рэдакцыю, друкарню і кватэру рэдактара і ад імя Менскай групы РСДРП заявілі, што пачынаюць друкаваць праклямацыі. Выдрукаваўшы некалькі тысяч лісткоў „к русскому народу“ і „Солдатам“, падпісаных Цэнтральным камітэтам РСДРП, прышоўшыя пакінулі друкарню. З гэтае прычыны сёньнешні нумар газэты выйшаў з вялікім спазьненьнем і ў меншай колькасьці экзэмпляраў“.

Такім чынам зьявілася мажлівасьць лепш забясьпечыць рабочых і сялян тэрміновай інформацыяй.

Поруч з ростам рэволюцыйнага руху ўзмацняўся паліцэйскі тэрор Цэлы рад таварышоў быў вымушаны перайсьці на нелегальны стан. Але дзе ўзяць дакументы і пашпарты для нелегальных.

Цікава прывесьці дакумантальны факт з жыцьця Бабруйскай арганізацыі, якая забясьпечвала не фальшывымі, а сапраўднымі пашпартамі багата падпольных працаўнікоў. З гэтае мэты быў вылучаны спэцыяльны таварыш, які здолеў добра наладзіць пастаўку пашпартоў з мястэчку Азарычы. Азарыцкі старшыня знарок ня выкрэсьліваў са сьпіскаў кніг ні тых, якія памерлі, ні тых, якія выехалі. За 15—25 рублёў ён выдаваў пашпарты на прозьвішчы памёршых ці паехаўшых. Ён толькі прасіў, каб у выпадку правалу, яго адразу інформавалі. Нават ЦК вельмі часта карыстаўся пашпартнай дапамогай з Бабруйску.

Аднойчы ЦК паведаміў, што адзін з удзельнікаў Якуцкай драмы, які ўцёк ад кары сьмерці, зусім выпадкова быў арыштаваны на кватэры аднаго таварыша ў Екацерынаславе. Ён доўгі час блытаў паліцыю, а тым часам запытаў ЦК пра пашпарт. У 1904 г. група—57 палітычных ссыльных у Якуцку арганізавалі протэст супроць зьдзекаў царскіх чыноўнікаў. Палітычныя забарыкадаваліся ў адным доме і пятрабавалі перамены рэжыму. У працягу некалькі дзен дом быў асаджаны і абстраляны. Пасьля шмат каго з іх прысудзілі да кары сьмерцю.

У гарадох і мястэчках Беларусі пра Якуцкую драму добра ведалі. Зразумела, што Бабруйск з прыемнасьцю ўзяўся дапамагчы гэтаму таварышу і паведаміў яго, пад якім прозьвішчам ён павінен сябе назваць. Сьледчы зрабіў запрос у Азарычы, ці ёсьць у іх такі, быў атрыманы станоўчы адказ; але недаверлівы сьледчы накіраваў арыштаванага ў Бабруйск, каб яшчэ раз падцьвердзіць гэта пры спатканьні арыштаванага з яго сваякамі. Перадалі пра гэта старшыні. Атрымаўшы фотографічную картку арыштаванага, ён падрыхтаваў 2-х дзядзькоў, паказаў ім портрэт і навучыў што рабіць. Неўзабаве яны былі выкліканы ў Бабруйск.

У бабруйскім астрозе дзядзькі з крыкам радасьці кінуліся на шыю свайго „сваяка“. Плян удаўся і ўвечары новы Азарыцкі мешчанін быў вызвалены.

Бурлівы 1905 год усё больш упарта націскаў на самаўладзьдзе. Царскі трон захістаўся. Паліцыя ўсё больш часта адступала перад магутным напорам мільёнаў. Забастоўкі фабрык і заводаў, чыгунак і пошты, зрабіліся штодзенный зьявай. Зьнізу да верху была ўзрушана царская Расія ў кастрычніку 1905 г., калі забаставалі чыгуначнікі і паштавікі. Спынілася жыцьцё краіны. Цар, ня бачачы другога ратунку для сябе, дараваў народу ў сваім маніфэсьце конституцыю. І ў гэты час царызм стараўся пераключыць народнае азлабленьне на яўрэйскія пагромы і для расправы з рэволюцыйнымі організацыямі.

Пра гэты маніфэст у Менску даведаліся 18 кастрычніка. Галоўны цэнтр усіх сходаў быў тады сучасны пасажырскі вагзал, бо ў той час баставала чыгунка. Хутка ўся плошча перад вагзалам напоўнілася рабочымі. Неўзабаве маніфэст зьявіўся ў горадзе ў друкаваным выглядзе. Пачаліся маніфэстацыі. На плошчы распачаўся мітынг, на якім прадстаўнікі розных партый заклікалі не спадзявацца на словы маніфэсту, бо пакуль цар на троне, ніякай волі ня будзе. Маніфэстацыя запатрабавала вызваленьня палітычных арыштаваных. Была абрана дэлегацыя да губарнатара Курлова.

Шматтысячная дэмонстрацыя чакала. Урэшце зьявілася вялікая маніфэстацыя з чырвонымі сьцягамі. Маніфэстанты несьлі на руках толькі-што вызваленых таварышоў. Вызваленыя таварышы падняліся на трыбуну вітаць дэмонстрантаў. У гэты час некаторыя заўважылі, як салдаты ў баявой амуніцыі падыходзяць з боку паветранага чыгуначнага маста, накіроўваючыся для абкружэньня мітынгу. Салдаты рухаліся неяк нерашуча і маўкліва.

З натоўпу пачуліся выгукі: „Гэта салдаты далучаюцца да народу“, „Няхай жывуць рэволюцыйныя салдаты“. Гэтыя выгукі былі пакрыты моцным залпам салдат.

Крыкі жаху і стогны параненых агаласілі плошчу і вакольныя вуліцы. Натоўп пачаў распыльвацца. Некаторыя кідаліся з боку ў бок па плошчы, некаторыя пералязалі праз парканы, кідаліся на зямлю.

У некалькі хвілін плошча апусьцела. На зямлі ляжала 80 забітых і каля трохсот параненых грамадзян.

Жудасны малюнак уяўляў тады двор Менскай яўрэйскай больніцы (зараз 1-я больніца па Ленінскай). Усе будынкі былі перапоўненыя забітымі і паранэнымі. Па ранах забітых было відаць, што салдаты стралялі разрыўнымі кулямі.

Курлоўскі расстрэл яшчэ больш павялічыў абурэньне рабочых, а самае галоўнае, маса пераканалася ў хлусьлівым і ашуканскім характары царскага маніфэсту.

Варта ўспомніць бунт Бабруйскага дысцыплінарнага батальёну. Даволі моцная група РСДРП у Бабруйску мела сувязі з вайсковымі часьцямі крэпаснога гарнізону. У царскай арміі адносіліся



**З ахвяр Аршанскага пагрому.**



**Хата ў Бабруйску, дзе друкаваўся маніфэст 1-га зьезду РСДРП.**



**Зільберборд (з м. Дуброўна).**

з салдатамі вельмі брыдка і агідна. Ня дзіва, што салдаты часам выказвалі нездавольненьне існуючым парадкам. Для такіх існаваў дысцыплінарны батальён. Там выхоўвалі салдат галоўным чынам дубцамі. Удзень салдат мог атрымаць ад 30 да 130 дубцоў. Білі ўнтэрафіцэры ў прысутнасьці ўсіх салдат батальёну. Хто адсутнічаў атрымліваў за гэта 30 дубцоў. І так штодня. Раніцою, як уся казарма яшчэ спала, у яе ўводзілі дзесятак бара

банишчыкаў і пачыналі барабаніць. Спалоханыя салдаты падымаліся з нараў; у шмат якіх на ўсё жыцьцё заставалася ўзрушаная нэрвовая сыстэма. Нездаволеньне ў батальёне было вялікае. У лістападзе 1905 г. занялося паўстаньне. Зьняволеныя — 1000 чалавек кінулі заняткі і высунулі свае патрабаваньні. Начальства ня ведала, што рабіць, бо і іншыя часьці гарнізону маглі таксама далучыцца да паўстанцаў. Хутка ў горадзе даведаліся пра паўстаньне. Тутэйшая „Іскраўская“ организацыя ўзяла на сябе кіраўніцтва паўстаньнем. Праз 3-4 дні на падмогу мясцоваму гарнізону прыбыла з Менску цэлая пяхотная дывізія— „карная экспэдыцыя Арлова“.

Як толькі Менскае войска прыбыла, яго адразу-ж на вагзале засыпалі проклямацыямі. На вагзале быў наладжаны мітынг, на якім вайсковец Кажамякін заклікаў салдат не страляць у паўстанцаў. Агітацыя посьпехаў ня мела. Раніцою казармы дысцыплінарнага батальёну былі абкружаны пяхотай і гарматамі. Зьняволеным было прапанавана здацца, што яны і зрабілі.

35 чалавек аддалі ваеннаму суду. Частка была прысуджана да кары сьмерці.

Организацыя павінна была ўжыць усе захады, каб выратаваць прысуджаных таварышоў. У вастрог была перададзена міксту́ра, у выніку якой зьняволеныя нібы захварэлі і іх перавялі ў шпіталь. Усе яны знаходзіліся ў адной палаце і организацыя пачала рыхтаваць пабег.

Пару раз спробы не ўдаваліся, але ўрэшце ўдалося ўсыпіць варту. У працягу ўсяго якіх-небудзь 10 хвілін зьняволеныя прасьвідравалі краты і па аднаму спусьціліся ўніз. Усяго зьбегла 12 чалавек. Паліцыя павінна была яшчэ раз пераканацца, што партыя жыве, што организацыі працуюць.



**Пуліхаў напярэдадні пакараньня сьмерцю.**

Пачалася лютая рэакцыя. Казакі лёталі па вуліцах гарадоў і мястэчак і няшчадна зьбівалі ўсякага рабочага, усякага маладога чалавека. Даведаўшыся пра які-небудзь рабочы сход паліцыя бязьлітасна расправілася са ўсімі яго ўдзельнікамі. Міністр унутраных спраў генэрал Трэпаў прылажыў сваю трывалую руку да маніфэсту.

— „Куль не шкадаваць, халастых залпаў не даваць“,—быў загад соаўтара царскага маніфэсту. Мікалай II, які думаў, што маніфэст верне яму давер'е, страчанае ў выніку расстрэлу 9 студзеня 1905 г.— памыліўся. Пасьля гарадоў узьнялася вёска. Галодная, безьзямельная вёска патрабавала зямлі.

Сялянскае нездаволеньне знайшло яскравае афармленьне на Палаччыне ў, так званым, Кадзінскім бунце. У жніво, як у хаце засталіся толькі дзеці, да Янкі Харсеева – селяніна мястэчка Кадзіна— прыехалі стражнікі, зрабілі вобыск і арыштавалі іх сына— Андрэя Харсеева.

Андрэй вёў рэволюцыйную работу, але па сваёй сялянскай шчырасьці дрэнна ўтойваў сваю рэволюцыйную дзейнасьць; ён правёў забастоўку ў маёнтку буйнешага абшарніка Галынскага. Меў вялікі ўплыў на сялян вакольных вёсак і карыстаўся іх сымпатыяй. Паліцыя вырашыла „ўбраць яго“. Яго арыштавалі і няпрыкметна адвезьлі ў мястэчка Кадзіна, там зьвязалі, паклалі ў фурманку, наверх наклалі сена, каб ня было відаць, і паехалі ў горад. Але сястра Андрэя, прыкмеціўшы арышт брата, пабегла ў царкву і ўдарыла ў набат. Бліжэйшыя сяляне кінулі работу і конна пабеглі ў вёску.

Даведаўшыся пра арышт Андрэя, сяляне злосныя на абшарнікаў і стражнікаў, дагналі стражнікаў, забілі іх і вызвалілі Андрэя.

Сяляне да работы не вярнуліся. Узброеныя каламі, сярпамі, сякерамі, каменьнямі, ланцугамі яны пайшлі на абшарнікаў. Абшарнік ніколі ў сваіх 60 маёнтках ня жыў, тут кіравалі яго загадчыкі, якія з дапамогай сотні стражнікаў зьдзекаваліся з сялян.

Выпадак з Андрэем быў кропляй, якая перапоўніла меру сялянскай цярплівасьці. Сяляне працавалі на абшарніцкіх палех больш чым на сваіх і ніяк не маглі з ім расквітацца. Становішча пагоршылася з тае прычыны, што абшарнік адабраў у сваю карысьць усю мястэчковую зямлю. Злосьць усё больш нарастала. І гэтая вялізарная, страшэнная хваля рушылася на свайго спрадвечнага ворага—абшарніка. Пайшлі ўсе прыгнечаныя, бяз розьніцы нацыянальнасьцяй, з мястэчка і вёскі. Каб стражнікі не разьбегліся, дык гэтае страшэннае мора, што так бурна выйшла з берагоў, бязумоўна зьнішчыла б іх. Маса была гатова ісьці ў бойку за вызваленьне, але ня было на месцы рэволюцыйнай организацыі, якая-б кіравала паўстаньнем.

З Смаленску, Бранску і іншых гарадоў было перакінута каля 2000 тыс. салдат, стражнікаў і казакоў, якія люта прыдушылі паўстаньне. Цэлымі днямі вазілі натоўпы зьбітых і зьвязаных сялян. Шмат каго забілі, паранілі або саслалі на катаргу.

Дараваная „воля“ аздобілася такім чынам крывёю рабочых і сялян. Яшчэ не пасьпела насельніцтва даведацца, што азначае констытуцыя пры самаўладзьдзі, як самаўладзьдзе само выкрыла яе сутнасьць. Маса зразумела, што самаўладзьдзе ня можа жыць без народнай крыві і пакуль яно існуе народная кроў будзе ліцца струменямі. Крывавы Мікалай мог даць толькі крывавую констытуцыю.



**Помнік Гіршу Лекерту ў Менску.**

Праз 12 год, пасьля перамогі пролетарскай рэволюцыі і над царызмам і над фабрыкантамі, і абшарнікам Ленін сказаў: „Бяз генэральнай рэпэтыцыі“ 1905 г. перамога Кастрычнікавай рэволюцыі 1917 г. была-б немажліва“.

Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі ня было-б, каб у генэральнай рэпэтыцыі“ 1905 г. рабочыя і сяляне Беларусі не прайшлі крывавага шляху барацьбы з царызмам, з фабрыкантамі і абшарнікамі, з „сваёй“ і „чужой“ буржуазіяй.

Рэволюцыя 1905 г. была прыдушана, але вопыт гэтай рэволюцыі застаўся цалкам і быў выкарыстаны ў дні Кастрычніка. Тысячы героічных ахвяр, панесеных пролетарыятам і сялянствам на ахвярнік рэволюцыі 1905-1906 гадоў, не загінулі дарма.

Сяўба дала багатыя плады.

СССР, БССР, УССР і іншыя савецкія рэспублікі — лепшы доказ гэтага.



**Дэмонстрацыя ў яўрэйскім мястэчку.**

# На подступах Кастрычніка

Нарыс **Г. Ругера**



Давайце перанясемся думкаю на чвэртку веку назад, прыпомнім тое, што было да Кастрычнікавае рэволюцыі, што падрыхтавала глебу, каб скінуць уладу цара і капіталістых у Расіі.

1904 год. На Далёкім Усходзе вайна Расіі з Японіяй. Малады японскі імпэрыялізм, што ўпяршыню вышаў на сусьветную арэну, пасьпяхова змагаецца з расійскім імпэрыялізмам за выхад да мора, за рынкі сыравіны і збыту. Расійская армія, дрэнна ўзброеная, маючы дрэннае забясьпечаньне, маючы шмат вялікіх і маленькіх здраднікаў церпіць вялікія паражэньні, праігрывае баі адзін за адным.

— Японцаў шапкамі закідаем!—крычалі расійскія шовіністыя, пачынаючы вайну.

Але вышла зусім іншае. Вораг моцны. Ён моцна б'е войска „яго вялікасьці імпэратара расійскага“. Ён крок за крокам ідзе ўсё наперад ды наперад.

А ўнутры імпэратарскае Расіі становішча таксама ня вельмі добрае. Цяжкі прамысловы крызіс на шмат пагоршвае і так ужо дрэннае становішча працоўных мас—галоўным чынам бязьлітасна заэксплёатаваных рабочых. Сялянства, дзякуючы непасільным падаткам, дзякуючы эксплёатацыі яго абшарнікамі і царскімі чыноўнікамі, бяднее, галадуе, пакутуе. У ім нарастае вялікае незадавольства.

Нездаволена становішчам рэчаў і буржуазія як буйная, так і дробная. Рэшткі фэўдальнае сыстэмы, царскае самаўладзтва, улад буйных аграрыяў-дваран перашкаджаюць разьвіцьцю капіталізму ў Расіі, перашкаджаюць разьвіцьцю яе вытворчых сіл. Буржуазія рвецца да ўлады. Расійская буржуазія, як і буржуазія Захаду, імкнецца стаць на старне кіраваньня. Яна хоча сілком, у імя сваіх інтарэсаў, заняцца разьвіцьцём вытворчых сіл краіны і эксплёатацыяй працоўных мас расійскай імпэрыі. Але па дарозе да гэтае ўлады стаіць расійскі самаўладны царызм, стаіць рэакцыйнае дваранства ў асобе абшарнікаў, стаіць царскае бюрократычнае чыноўніцтва. І буржуазія ліхаманкава шукае шляхоў (хоць-бы і рэволюцыйных), каб зламаць упорнасьць рэакцыйных дваран, каб прымусіць іх уступіць ёй кіраўнічую ролю ў краіне. Але нават сярод абшарнікаў-дваран няма аднадушша. Яны далёка ня ўсе стаяць цалкам на баку самаўладнага цара. Частка з іх, заражоная новымі ўплывамі, марыць перарабіць свае маёнткі на хлебныя заводы, і ўжо на баку буржуазіі. Яны таксама як купцы, патрабуюць зьмены ў палітычным ладзе краіны, атрабуючы капіталістычных рэформ, так неабходных тады на разьвіцьцё вытворчых сіл Расіі.

Рабочая кляса таксама хвалюецца. Таксама патрабуе да сябе больш чалавечых адносін. Па ўсёй Расіі ўспыхваюць забастоўкі, часткаю эканамічнага, часткаю ўжо палітычнага характару. Так, напр., у самым канцы 1904 г. ўспыхвае буйная забастоўка на бакінскіх нафтавых промыслах. Рабочыя не абмяжоўваюцца толькі экономічнаю барацьбою. Яны патрабуюць ад царскага ўраду права сьвяткаваць Першае мая, свабоды організацыі саюзаў, свабоды друку, слова, васьмігадзіннага рабочага дня.

Палітычны горызонт тагачаснае імпэратарскае Расіі ўсё больш і больш зацягваецца цёмнымі хмарамі. Хвалі рэволюцыі пагрозьліва бурляць каля самага прастолу расійскага цара.

* * *

Дзевятае студзеня 1905 году, так званая крывавая нядзеля, калі ў адказ на маленьні рабочых пра дапамогу загаманілі царскія гарматы ды вінтоўкі, калі на пляцы Зімняга палацу ў Пецярбурзе пalілася рабочая кроў—гэты дзень 9 студзеня 1905 г. быў першым днём рэволюцыі, быў сыгнал да пачатку рэволюцыйнага руху на ўсёй Расіі. Як рабочыя масы ужо ў той час былі рэволюцыйна настроены, паказваюць ужо тыя абставіны, што ўсеагульная забастоўка на Пуцілаўскім заводзе выбухнула з-за таго, што адміністрацыя звольніла чатырох рабочых. І гэты ў агульным не першараднае важнасьці факт стаў зачэпкаю да спыненьня ўсяго заводу, да рэволюцыйных успышак і дэмонстрацый.

Забастовачны рух, пасьля падзей 9 студзеня 1905 году ў Пецярбурзе, праносіцца па ўсёй Расіі. У Польшчы і ў Прыбалтыцы забастоўкі набываюць яўна палітычны характар. У Варшаве ды ў Рызе адбываюцца ўзброеныя сутычкі рабочых з паліцыяй. На Украіне—масавыя экономічныя стачкі. У іншых гарадах то там, то тут адбываюцца забастоўкі чыгуначнікаў, рамізьнікаў, хатніх работніц, нават простытутак. Хваля протэсту захопвае нават такія пласты эксплёатаваных, якія раней і ня думалі протэставаць супроць эксплёатацыі.

Не маўчыць і буржуазія. Праўда, яна ня прымае ўдзелу ў забастовачным руху. Яна організоўвае так званыя банкеты, на якіх яе прадстаўнікі гавораць прамовы, патрабуючы ад цара конституцыі, адказнага перад парлямантам ураду, дэмократычных рэформ.

Царскі ўрад пачынае лякацца гэтага ўсеагульнага абурэньня розных пластоў тагачаснае расійскае грамады і ідзе на некаторыя ўступкі. Ён вызначае камісію на чале з сэнатарам Шыдлоўскім на расьсьледваньне падзей 9 студзеня, каб азначыць ступень вінаватасьці царскіх апрычнікаў у гэтым студзеньскім крывапраліцьці. Уступаючы націску рабочых мас, царскі ўрад згаджаецца ўключыць у гэтую камісію і рабочых дэлегатаў. Вось характарная дэталь, якая ярка паказвае, як рабочыя сталі больш рэволюцыйна настроены пасьля падзей 9 студзеня: у камісію Шыдлоўскага Пецярбурскія фабрыкі ды заводы выбі-

# СЬМЕХ — СІЛА




*Нарыс*

**Ч. БАРЫСАЎСКАГА**

Французскі гісторык Мішле гаварыў, што дзесяць тысяч артыкулаў ня могуць зрабіць у сьвядомасьці чытача таго, што зробіць адзін малюнак таленавітага карыкатурыстага. Сьмех — сапраўды вялікая сіла. Герцэн гаварыў, што „сьмех—рэч не жартаўлівая“. Ён падрабязна тлумачыў: „Прымусіць сьмяяцца з бога Апіса, значыцца расстрыгчы яго з сьвяшчэннага сану ў звычайныя бугаі“.

Сатырыкі эпохі першай расійскай рэволюцыі павінны былі ў першую чаргу зьвярнуць ўвагу менавіта на вярхоўнага кіраўніка—на цара. Цар быў для народу недасяжным, памазанікам божым. „Бог на небе, цар на зямлі“. Карыкатура, гострае слова сатырыка павінны былі паказаць усю слабасьць, мізэрнасьць і нікчэмнасьць цара.

Сьмех—сіла. Пролетар, які з дзяцінства развучыўся плакаць, навучыўся злосна сьмяяцца з сваёй цяжкай працы і няшчаснай долі. Вось гэтыя жарты, кпіны, астрыні—зярняткі гумару і рабочае дасьціпнасьці, сатырыкі і карыкатурыстыя пачалі выкарыстоўваць у часопісах 1905 году.

Ня лёгкая гэта была пр·ца. Трэба было прыстасавацца да лютых умоў цэнзара, які праглядаў кожны радок, кожную застаўку. Цэнзараўскі ўціск меў і адзін дадатны бок: ён навучыў чытаць паміж радкоў, разумець з паўслова, што яму падказваў пісьменьнік ці мастак. Адзін земскі начальнік ск·рдзіўся неяк на такіх чытачоў.

— Дала мая жонка аднаму кніжку пачытаць, пра зьвярэй. Прыходзіць ён і кажа: „Добра тут пра нас напісана“—„Як гэта гэта пра вас? Ці хіба вы зьвяры?“.—Мы не зьвяры, але-ж і ў песьнях вось пра зьвяроў ўсёроўна да чыста як пра людзей апавядаецца“.—„Ды што тут на вас падобна?“—А вось бачыце, ў кніжцы гаворыцца пра перасяленьне жывёл, якіх голад і холад кідае з месца на месца. А вось мы таксама з прычыны голаду бадзяемся з месца на месца.

Нявольнікі жадалі быць грамадзянамі. Гэта жаданьне выявілася асабліва яскрава ў студзеньскія дні. Кіруючы бюрократычны Олімп зьявіўся перад масай бяз усякіх шырмаў. Усе ўбачылі, як у гэтым расхваляваным моры плыве гнілы, старэнькі човен з слабенькім і нікчэмным Мікалаем. Тут патрэбны быў мастак, карыкатурысты, які здолеў-бы малюнкамі і фарбай паказаць гэтае страшыдла ў тым самым гротэскным стылі, са ўсімі характарнымі рысамі, уласьцівымі гэтаму страшыдлу.

Пачатак зрабіў сапраўды баявы сатарыстычны часопіс „Зритель“. Заснаваў яго мастак Арцыбушаў. Цэнзурны камітэт спачатку думаў, што часопіс будзе займацца толькі літаратурнымі і мастацкімі справамі. Але ўжо праз нейкі час цэнзар быў вымушаны пісаць, „што часопіс мае політычныя задачы і прытым у напрамку ня толькі шкодным, але і агідным“.

Аднойчы Арцыбушаў прыслаў цэнзару застаўку. Тут былі намаляваны толькі ногі. Жаночыя чаравікі. Мужчынскія камашы, боты. Абутак усё больш-менш цывільны. Відаць, што людзі некуды ідуць. Цэнзар дазволіў.

Праз нейкі час у грудзе іншых малюнкаў была канцоўка. Зноў ногі. На гэты раз боты, змазаныя, грубыя... Дзе-ні-дзе шпоры... Зноў дазволіў. Але вось выходзіць нумар „Зрителя“. Малюнкі пастаўлены поруч. І цэнзар сам бачыць малюнак нядаўнага арышту дэмонстрантаў.

Ці вось такі выпадак: пастулае ў цэнзуру малюнак, які паказвае перакулены зэдлік. Здаецца, што нічога страшнага. Цэнзар штэмпэлюе. Праз нейкі час пастулае застаўка: ногі ў ботах. Пара ног. Таксама нічога. Праз нейкі час тлустая, вялікая літара „Г“. Цэнзар зноў шт мпэлюе. Як-жа ён быў абураны, калі пасьля выхаду часопісі гэтыя малюнкі былі скомбінаваны так, што толькі сьляпы мог ня ўбачыць малюнку шыбеніцы.

У той час праводзілася кампанія бойкоту дзяржаўнай думы. У розныя часы цэнзар атрымлівае малюнак кітайца, пад якім стаіць подпіс „бой“, пасьля прыслалі ката з надпісам „Кот“, пасьля малюнак будынку дзяржаўнай думы. Усе гэтыя малюнкі былі дазволены, а пастаўленыя ў шнур у часопісі можна было адразу прачытаць „бойкот дзяржаўнай думы“.

Цэнзура лютавала. Дайшло да таго, што аднойчы цэнзар забараніў усе надасланыя малюнкі. Тады Арцыбушаў даў на першай старонцы паведамленьне, што „па незалежных прычынах, усе цалкам падрыхтаваныя малюнкі і віньеткі не маглі зьявіцца“ і выдрукаваў на ўсіх старонках журботную фігуру рэдактара, які гуляе па перакрэсьленых цэнзарам старонках часопісу.

Часопіс па-свойму таксама даваў хроніку, перадрукоўваючы яе з афіцыйнага „Правительственного Вестника“. Але ў гэтых вытрымках адчуваўся якісьці шкодны для ўраду, тэндэцыйны падбор.

— Начальнік Уфімскай губэрніі адчыніў надзвычайны губэрнскі земскі сход прамовай, што ён сходу дазваляе „иметь суждение“ адносна Вышэйшага ўказу 18 лютага“.

— „У Собрании узаконений и распоряжений правительства“ выдрук вана аб тым, што ў шапцы ніжніх чыноў уводзіцца новы ўзор брылю“.

— „У Собрании узаконений и распоряжений правительства“ выдрукавана пастанова аб тым, што кадэты дваранскіх кадэцкіх школ павінны несьці дзягу з мядзянай бляхай, з арлом і праменістым зьзяньнем.

Зразумела, што цэнзура не магла забараніць падобнага роду перадруку, але грамадзкасьці даволі яскрава гэтым паказвалася, чым займаецца ўрад у гэты гістарычны час.

У першыя дні маніфэсту зьявілася багата сатырыстычных часопісаў „Пулемет“, „Сигнал“, „Смелый“, „Жупел“, „Балда“ ды іншыя, якія адразу ўзялі баявы тон. Часопіс „Стрелы“ абвясьціў, што часопіс „сатырычны і няшчадны“ і, што супрацоўнікам загадана: патронаў не шкадаваць і халастых стрэлаў не даваць“.

Часопіс „Пулемет“ на ўсю першую старонку зьмясьціў маніфэст 17 кастрычніка. Рэдактар правёў сваю руку чырвонай фарбай па маніфэсту і прыпісаў: „К сему манифесту свиты его величества генерал майор Трепов руку приложил“, а ў тэксьце часопісу была зьмешчана „казка пра вясну“. Казка апавядала пра краіну, скаваную марозам, і як цар, гледзячы на гэта, шчыра радаваўся і непакоіўся толькі, як-бы зіма не зьмянілася на вясну,



БОЙ

адзнакі якой ўжо зьявіліся ў некаторых частках яго дзяржавы. Губарнатарам загадана было ня пушчаць сюды вясну з-за морскіх краін. А для гэтага ўжыць усякія рэпрэсіі і сячы галовы ўсім, хто адважыцца сказаць, што надыходзіць вясна. Тымчасам цар сасьніў старога, які сказаў яму, што ўся прырода стамілася, акаючы вясну, і што толькі цар можа дазволіць выпусьціць яе на волю. Калі цар прачнуўся, ён паклікаў сваіх дарадцаў Даноса і Неданоса і загадаў, каб усе сустрэлі вясну з хлебам ды сольлю, песьнямі ды скокамі. Але тыя супярэчылі, што ўжо позна. Цар дамагаўся свайго, што ён хоча вясну хоць „куцую" і куцая вясна была пададзена „с военными положениями, да с еврейскими погромами, да с пагаными казачонками, да с чорной сотнею. И по всей земле стоном стон пошел".

Як толькі гэты нумар вышаў з друку, паліцыя слова—цэнзура—паведаміла паліцыю справы і рэдактар „Пулемета" Шубуеў быў арыштаваны.

Сатырыстычныя часопісы надзвычайна ўдала падабралі матэрыялы і добра вярсталі кожны асобны нумар. Вось № 7 „Зрителя". На першай старонцы малюнак „агляд запасу". Відаць жандар, а можа паліцэйскі прыстаў паставіў у шэраг дворнікаў і дае ім адпаведныя інструкцыі. Слоў ніякіх, але па тварах відаць якога характару гэтыя інструкцыі... Затым, праз дзьве старонкі вялікі малюнак „Туга", група жанчын у жалобе ідуць за трунай. А ў хроні ы падрабязныя інформацыі аб ніжагародзкім зьбіеньні дэманстрантаў, паведамленьні аб забойстве паліцэйскіх чыноў і пакараньнях.



КОТ

У нумары шостым зьяўляецца малюнак насавой хусткі. На другой старон ы—чалавек, відаць, стаіць на вокзале і камусьці хусткай махае. У тэксьце — апавяданьне „пасьля абеду"—і тут таксама хустка. Два прыяцелі спрачаюцца аб тым, ці мае правараcійскі грамадзянін смаркацца.

— Але. Ці маеш права смаркацца? — рубам ставіць пытаньне прыяцель.

— „Палагаю" ...—адказвае другі.

— Ты не „палагай", а „ответствуй". І ты ня маеш ніякага права смаркацца. .

— Калі ў присутнасьці асоб чацьвертае клясы...

— Усёроўна.

— Дазволь, дазволь..

— Не дазволю. Каб смаркацца, па тваёй тэорыі патрэбна прадпісаньне цыркулярнае ці сэпаратнае... Мала таго. Ці маеш права выймаць хустку?

— Якую хустку?

— Каб смаркацца... Насавую.

— „Полагаю", што гэта таксама залежыць ад асобы...

— Глупства. Ня маеш права нават хустку выймаць. Дзе цыркуляр? Дзе гэта твае права? Не забаронена? А дазволена?

Чытач дзівіцца, у чым справа. Праз некалькі старонак, у хроніцы мы знаходзім паведамленьне, узятае з строга-афіцыйнага матэрыялу. Тут гаварылася аб тым, што калі статс-сакратар Пабеданосцаў выяжджаў з Царскага Сяла, была на вакзале арыштавана адна асоба з хусткаю ў руках, якую западазравалі, што яна рыхтуе замах на міністра. Як аказалася, гэты грамадзянін спатыкаў сваю сям'ю.

Трэпава надзвычайна абурыла казка пра сьляпую і глухую, якая раптам пачала бачыць і гаварыць. Яе першымі і апошнімі словамі былі:

— „Цудоўны гураган, які заглушае мае слабенькія словы! Як цудоўна ўсё бачыць і пра ўсё гаварыць. Рыкай-жа, гураган! І няхай усе сьляпыя пачнуць бачыць і нямыя няхай загавораць. Няхай усе бачаць і гавораць".

Цэлая старонка адведзена пад малюнак, увесь заліты чырвоным, які паказвае мора з чорным сілуэтам вялікага браняносца на першым пляне і сілуэтамі фабрык і Ісакіеўскага сабору на заднім пляне. Подпіс тлумачыць, што гэта адбываец а ў краіне, дзе ўсходзіць сонца, а поруч, на папярэдняй старонцы, тлумачыцца больш падрабязна, у якой гэта краіне і якое маецца на ўвазе сонца... Тут-жа даюцца вынікі—колькі каштавала гісторыя з „Пацёмкіным".

„...Сам браняносец—12 мільёнаў, страты ў Адэсе—50 мільёнаў, сораму на 500 мільёнаў. Усяго 562 мільёны".

У хроніцы: „Тыфліс, 21-га чэрвеня. Крамы зачынены. У горадзе спакойна, **па начох паставыя гарадавыя ахоўваюцца салдатамі".** А далей пра забастоўкі ў Батуме, Бабруйску, Беластоку, Варшаве, Менску, Воршы і г. д.

Прывядзем некалькі прыкладаў з матэрыялу, даволі выразна накіраванага па царскім адрасе. Адбываецца размова ў музыкальнай краме.

— Ці ёсьць у вас грамафоны фірмы „Манарх"?

— Выбачайце. „Манарху" ня маем.

— Чаму-ж?

— Надта-ж ужо храпуць і зусім нятрывалыя. Дрэнная фірма.

Ці вось загадка—выразны закід па адрасу царыцы.

„—Дзьве сучкі—заморскія штучкі, за морам—цана ім грош, а ў нас голымі рукамі ня возьмеш".

Часопіс „Буревал" вельмі ўдала выкарыстоўваў брошуру нейкага Раманава „Пауки и мухи", забароненую паліцыяй.

„Выдрукаваная без дазволу цэнзуры,—піша часопіс,—брошура „Пауки и мухи" ўносіць атруту сярод насельніцтва нашага царства. Абуджаючы адну частку насельніцтва Расійскай імпэрыі (мухі) супроць другой (павукоў) нахабны аўтар зусім забываецца пра тое, што сама прырода ўстанавіла розьніцу паміж блакітна і чорнай крывёй, і наогул паміж клясамі насельніцтва... Цікава толькі ведаць, чым сябе лічаць паны Раманавы і іх зграя—павукамі ці мухамі?

Вялікую сэнсацыю зрабіў ліст у рэдакцыю, зьмешчаны ў „Зрителе".

— „М. Г.! У вячэрнім нумары газэты „Русь" пісалася пра нейкага маленькага карэйца Мікалая Раманава. Дазвольце высьветліць, што гэта за маленькі Мікалай Раманаў: ці не самазванец ён? Гэтае пытаньне трэба высьветліць, каб ня выклікаць нежаданых размоў, тым больш, што ў „Руси" пішуць, што маленькі Мікалай ужо арыштаваны"...

Пад гэтым лістом подпіс „абесінец Васіль Гогенцолерн".

І Мікалай, і Раманаў, і корэец, і маленькі, і Гогенцолерн, здавалася, што ўсё гаварылася „пра нашага" — пра цара. Здавалася, што на гэты раз Арцыбушаў папаўся сур'ёзна ў лапы паліцыі.

Як-жа зьдзівіліся і суд, і цэнзар, калі Арцыбушаў у суд прыцягнуў жывога маленькага карэйца, які па ўсіх дакумантах быў сапраўды і Мікалаем і Раманавым.

У адной казцы ў часопісе „Жупел" апавядаецца, як цар Берандзей на абедзе сказаў сваім міністрам: „Не магу я гэты крупнік есьці, калі частка народу майго паміраe з голаду".



ДЗЯРЖАЎНАЯ ДУМА.



Міністры адразу паслалі гэты царскі крупнік у галодныя губэрні, а для цара загадалі засмажыць барана.

Часопіс „Заре-о" ў першым нумары за 1906 год друкуе наступную тур-цкую казку. Спытаў аднойчы падышах турэцкага візіра:

— Якой сьмерцю памёр твой папярэднік?

— Яго забілі,—адказаў візір

— А яго папярэднік?

— Яго таксама забілі.

— Як-жа ты не баішся кіраваць міністэрствам?—спытаўся падышах.

Валікі візір крыху памаўчаў і спытаў:

— Кажы мне Вялікі Падышах, як памёр дзед твой?

— Яго разарвала знарадам.

— А твой прадзед?

— Атруціўся.

— Як-жа ты не баішся на троне сядзець?

— Адкуль ты ведаеш, што я не баюся,—адказаў Падышах.

Мікалай, як ящч маленькі быў, наведаў Японію і там неяк выпадкова гарадавы выцяў яго кіем па галаве. У Мікалая ад гэтага сеў на галаве гуз, ускочыла „шышка". Гэты гуз карыкатурыстыя экспліэатавалі як мага. Варта было намаляваць кірпатага хлопчыка, на тонкіх архітычных ножках, з вялікай галоўкай і гузам на ёй, як кожны адразу пазнаваў Мікалая. З прычыны тэлеграфнай забастоўкі была такая віньетка: тэлеграфныя слупы і з іх зьвісаюць правады. Хлопчык стаіць смокча палец і жаласьліва па-дурному глядзіць на слупы, а на лобе няўхільны гуз.

Расказвалі такія анэкдоты: цягне гарадавы ў вучастак аднаго чалавека, які на вуліцы ў голас на кагосьці крыкнуў „дурак".

— Што ты, — протэставаў арыштаваны,—ці мала гэта я пра каго.

— Добра, калі „дурак",—значыцца пра „нашага".

Гэтаксама ўспрымалі і пра асла. Аднойчы мастак узяў рамку надзвычайна распаўсюджанага у той час портрэту Мікалая, пакінуў усю рамку, а замест партрэта ўставіў асла. Тут ўжо ніякіх тлумачэньняў ня трэба было.

Да рабочых прыстаўлены жандары па два на аднаго. На другім малюнку рабочыя вывозяць Мікалая на тачцы.

„Спачатку заспакаеньне, а потым рэформы",—гэты славуты сказ ілюстраваўся паказам заспакоенай Масквы ў бязбрэжным моры крыві. Мастак Бродзкі, даў цэлы рад малюнкаў, якія паказваюць усё большае наступленьне рэакцыі. Вось яго вясеньні дзень: „па небу ходзяць хмаркі цяжкія", у форме грунаў... Вось сьмерць, стомленая ад цяжкай работы села адпачыць на грудзе мерцьвякоў. Вось могілкі, на яхіх ляжаць усе пахованыя „свабоды".

Вельмі не спадабаўся начальству малюнак, на якім быў паказаны Пурышкевіч, стоячы перад вітрынай магазіну з гальштукамі. У вусны Пурышкевіча ўкладзены словы, якія вымагалі зачыненьня магазыну за крамолу. Тут намякалася на славутую прамову кадэта Родзічэва, дзе той зусім нядвусэнсоўна гаварыў адносна шыбеніцы і вяроўкі назваў „гальштукам".

Але ўсё вышэй узьнімала галаву рэакцыя. Выходзіла на сцэну чорная сотня. Чорная ноч рэакцыі ахапіла краіну. Здавалася, што ўсяму канец, што рэволюцыя прыдушана, што рэволюцыі больш ня будзе. Гэта тады часопіс „Дикарь" зьмясьціў малюнак хворай жанчыны (Расія), каля ложку Карл Маркс, а ўнізе спакойны надпіс: „**Доктар**. Хвароба разьвіваецца нормальна. Падыходзіць крызіс". Гэты крызіс прышоў у лютаўскія кастрычнікавыя дні **1917 году. Праз 12 год.**



# ЗА ЎБОРКАЙ ЗБОЖЖА



ЯЎРЭЙСКІ КОЛГАС

Малюнак Каўроўскага



# БАРАЦЬБА ЗА ХЛ

## ХЛЕБ ІДЗЕ



БЕЗЬЛІЧ чырвоных абозаў па ўсёй краіне. З усіх вёсак і раёнаў да чыгуначных станцый і збожжавых складаў ідуць чырвоныя абозы. Гэта новая вёска выконвае свой абавязак перад пролетарскай дзяржавай.

У крывавым змаганьні нараджаецца гэтая новая вёска. Стары сьвет упарта змагаецца за свае позыцыі. Кожны крок, кожны новы колгас бярэцца з бою. Ня лёгка новае будаваць,—апавядаюць сяляне, што прыехалі з Новасёлкаў чырвоным абозам на пляц Волі.

— Летась, увосень, у нас старога забілі. Кулакі забілі. Яны хацелі ў сельсавет прабрацца. Супроць іх ніхто не адважыўся выступіць. Баяліся выкрываць. А стары ня спужаўся. І выкрыў. Іх, зразумела, у сельсавет ня выбралі. А стары, не дачакаўшыся канца сходу, да хаты пашоў. Яны ўспомнілі—дзе стары? Няма старога. Паехалі за ім, і тут каля хутара дагналі. Яны, зразумела, не пачалі, яго лаяць. Наадварот. Мы,—кажуць,—на цябе ня злуем, што нас правалiў. Ну,—кажуць, што было, дык было. Мы на цябе злосьці ня маем: заходзь да нас у госьці, памірымся. Стары за шоў да іх. Чаму-ж не? Яны яму шклянку гарэлкі наліваюць. Стары выпіў. Яны яму зноў шклянку гарэлкі даюць. Пі, стары бачыць, што яны хочуць спаіць яго. Не... На гэта ён ня пойдзе. Пакуль тыя пілі ён паволі ды паціху пачаў з хаты выбірацца і шляхам да сябе да дому пайшоў. Тыя раптам схапіліся,—дзе стары? Ну, тут яны пра ўсякую асьцярожнасьць забыліся: запрэглі каня, ды за ім. Людзі бачылі, як яны сьпяшаліся. А стары, зразумела, далёка адысьці не пасьпеў. Куды яму? Вось на гэтым самым шляху яны і дагналі яго. У іх сякера з сабою была. Потым над імі суд быў. Яны нават не хаваліся. Казалі на судзе, што п'яныя былі нічога ня помняць. Плакалі, каяліся. Абодвум—вышэйшая мера.

Ды ня толькі ў адных Новасёлкаўцаў гэтак было.

У холад і ў жар вёску кідала. Баламуціла, трывожыла, узьнімала. І пайшлі. Пайшлі ў колгасы. У колектыў пайшлі, каб супольна змагацца супроць кулака, супольна сеяць ды ўраджай здымаць. І ў выніку—першы колгасны ўраджай.

Пайшоў хлеб. Хлеб колгасны, хлеб савгасны, хлеб колектыўны.

Пашоў хлеб, які сеялі супольна, які здымалі супольна і які ўзмацняць будзе падмурак новай соцыялістычнай грамады.

— Разумеем, што кожны цэнтар хлеба ў дзяржаўных засеках,—гэта новы магутны ўдар па кулацкіх галовах, па шкодніках, па ворагах нашага новага жыцьця, па опортуністых, па нацыянал дэмократах.

Ідуць абозы комсамольскія, мопраўскія, жаночыя, ударныя, кастрычнікавыя, чырвонаармейскія... Ідуць, ідуць. Хлеб ідзе.

— Надоечы ў нас, у Шацілках, сход быў. Цяжка нашага селяніна падняць. Плян нарыхтовак мы ня выканалі, плян нарыхтовак бульбы ня выканалі, контрактацыя малака кульгае.

— Сход бурны быў. Вёска багата запазычыла ў дзяржавы. А мы глянь, як за дабро плоцім.

— Несьвядомасьць, ці што?

— Мо' і несьвядомы народ. Вось бачыш: пазычыць дык сьвядомасьці хапіла. Тут контра нейкая сярод нас забралася. Хутарскія і па гэты дзень усё супроць ды супроць. Тут гэта, каб мы ўсе сьцяной колектыўнай на іх, — вядома перамога наша была.

Вось і мітынгуем, спрачаемся. А плян ні з месца. А тут глянь, бабы на мужыкоў націскаюць:

— На нашым дэлегацкім сходзе мы ня хочам ззаду другіх быць. Абоз! Таму і сход такі ўжо надзвычайна бурлівы. Бабы свайго дамагуцца.

— Мы, кажуць, ня менш вашага і ў сяўбу і ў жніво працавалі. Маем права на свой уласны абоз.

— Павязуць заўтра. Трыццаць восем фурманак выедуць. Пудоў з трыста павязуць. А там і комсамольцы абоз падрыхтуюць.

А такіх Шацілкаў багата.

— Чаго, кажуць, сьпяшацца, мы плян выканаем. Яшчэ часу хопіць. Вось тут і тлумач кожнаму, што бульбу да замаразкаў трэба перавезьці да прамысловых цэнтраў, што хлеб трэба да бездарожжа да чыгункі падвезьці.

У гэтай справе багата дапамагае соцыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва, сустрэчны промфінплян, грамадзкі буксір. Усё гэта, у значнай меры, забясьпечвае бальшавіцкія тэмпы збожжавых нарыхтовак. Але гэтыя мэтоды ўжываюць не ў патрэбнай меры. Крывая нарыхтовак ад пяцідзенкі да пяцідзёнкі вельмі марудна падымаецца ўгору. Месячныя заданьні выконваюцца вэльмі нездавальняюча.

# ЗА ХЛЕБ—БАРАЦЬБА ЗА СОЦЫЯЛІЗМ!

Карэньні прарываў трэба шукаць перш за ўсё ў тым, што ў шэрагу раёнаў паслаблена барацьба з кулаком. У шмат якіх раёнах кулаку зусім ня вызначаны цьвёрдыя заданьні і ў гэтых раёнах кулакі яшчэ не здалі аніводнага кілё збожжа. Багата дзе, зусім не правяраецца, як кулакі здалі збожжа, да іх не прыстасоўваецца адпаведная пастанова аб ужываньні шматкратнага штрафаваньня.

Гэта і ёсьць махравы опортунізм на практыцы, з якім трэба весьці самае жорсткае бязьлітаснае змаганьне.

Кулак добра выкарыстоўвае нашыя слабасьці. На млынох вялікая чарга кулацкіх і заможных фурманак збожжа. Перамолатае кулацкае збожжа замест дзяржаўных складаў трапляе на рынак, дзе прадаецца па спэкуляцыйных цэнах.

Кулак вядзе шалёную кампанію супроць выкананьня пляну нарыхтовак. Бедната ня ўцягнута ў справу па выяўленьню кулацка-заможных гаспадарак, каб даць ім цьвёрдыя заданьні.

Магут ым націскам трэба зламаць кулацкае супраціўленьне.

Хлеб павінен пайсьці, хлеб пойдзе.

Хлеб ідзе, але мала. Тэмпаў ня відаць.

Тэмпы, тэмпы і хлеб пойдзе, бо ён ужо ідзе.

Янка БОБРИК

## АКВІТАЯ ВОСЕНЬ

Аквітая восень такая —
Сьпелы антонаўскі яблык...
Краіна, глядзі, дарагая!
Рукі у працы ня слабнуць.
Кажуць, восень —
пара адцьвітаньня,
а мне хочацца —
жыць, расквітаць,
Ня ростані жду,
а спатканьня,
не старое, а
юнасьць вітаць.
Не бяда, што і воблакі ў небе —
Спахмурнее восеньскі дзень...
Чую пах
умалотнага хлеба...
Малатарня
пагрымае дзесь...
Мо, таму,
што радзіўся ўвосень,
Як казала
мне маці калісь,
люблю залацістыя косы,
ураджай
савецкай зямлі.
Аквітая восень такая —
Сьпелы, антонаўскі яблык...
Краіна, глядзі, дарагая!
Рукі ў працы ня слабнуць



# БАРАЦЬБА ЗА ХЛЕБ

„Здаецца, што гэта барацьба толькі за хлеб, а сапраўды гэта барацьба за соцыялізм" (Ленін, т. XV, стар. 315).

**У кожнай рэволюцыі хлеб—адзін з найбольш важных вучасткаў клясавай барацьбы.** У часе вялікай француская рэволюцыі рэакцыянэры організоўвалі і агітавалі сялян не падвозіць хлеб у рэволюцыйныя цэнтры. Парыская комуна 1871 году значна пакутвала ад хлебнай блёкады. У грамадзянскую вайну 1918—21 гадоў белагвардзейцы і кулакі палілі хлебныя склады і нават цэлыя маршрутныя цягнікі, каб аслабіць моц свайго клясавага ворагу—рабочае клясы. У момант найвышэйшага ўздыму ў 1923 годзе ў Нямеччыне кулацкая Прусія і фашыцкая Бавария організоўвалі хлебную блёкаду рэволюцыйнай Турынгіі

Хлеб заўсёды быў і застаецца магутнай зброяй клясавай барацьбы У адказ на рост соцыялістычнага будаўніцтва, у адказ на наступленьне соцыялістычных элемэнтаў гаспадаркі на прыватна-капіталістычныя элемэнты, кулацтва ў СССР організавала ў 1928—1929 годзе хлебную забастоўку. Кулацтва меркавала гэтым самым прымусіць рабочую клясу і яе кіраўніка—комуністычную партыю—адмовіцца ад перабудовы нашае краіны на соцыялістычны лад.

Барацьба за хлеб у нас мае асабліва востры характар. Усе капіталістычныя элемэнты краіны, і ў першую чаргу кулацтва, на працягу ўсіх год Кастрычнікавай рэволюцыі вядуць атакі супроць збожжавых загатовак. У грамадзянскую вайну барацьба за хлеб была асноўнай умовай перамогі Кастрычнікавай рэволюцыі. З пераходам да НЭП'у барацьба за хлеб прымае толькі іншыя формы. У першыя гады НЭП'у барацьба за хлеб мела форму барацьбы прыватных гандляроў і кулакоў супроць рэгуляваньня рабочай дзяржавай рынку наогул і ў першую чаргу хлебнага. Барацьба-ж вакол хлеба ў апошнія гады ператварылася ў барацьбу супроць соцыялістычнага будаўніцтва ў краіне.

„Вольны" дарэволюцыйны рынак нараджаў капіталізм. Тое самае было-б у савецкай краіне, калі-б дзяржава ня вырашыла задачу падпарадкаваньня сваім дырэктывам усяго таваразвароту і ў першую чаргу гандлю хлебам. Калі-б дзяржава не аўладала хлебным рынкам, кулакі і спэкулянты дыктавалі-б свае цэны рынку і пролетарскаму гораду. А гэта значыць, што краіну яны-б пацягнулі назад да капіталізму. Дзяржаўнае аўладаньне рынкам адбывалася паступова. Штогод узрастала колькасьць хлеба, які нарыхтаваны дзяржавай і, такім чынам, пролетарскі горад атрымліваў хлеб па дзяржаўных цэнах.

Без дзяржаўнага рэгуляваньня хлебныя цэны хістаюцца. Пры багатым ураджаі цэны падаюць. Пры дрэнным — яны рэзка падымаюцца. Апрача таго, цэны вясной вышэйшыя, чым у восень. У першым і ў другім выпадку церпіць сялянская бедната. Калі, нават, пры добрым ураджаі яна мае крыху хлеба для продажу, дык усёроўна вымушана гэты хлеб прадаваць увосень па нізкіх цэнах. Пры дрэнным ураджаі бедната ўвесь год купляе хлеб у кулака па высокіх цэнах. Ад хістаньняў цэн на хлеб пакутвае таксама і серадняк. Прыбытак-жа мае толькі кулак. Такім чынам, ад дзяржаўнага рэгуляваньня хлебам застаецца ў выйгрышу ня толькі рабочы, але і вясковая бедната і серадняк.

Кулак з асаблівай упартасьцю выступаў супроць дзяржаўных нарыхтовак збожжа. Кулак затрымліваў свой хлеб, ён не жадаў прадаваць яго пролетарскай дзяржаве. Адсюль вынік—зьмяншэньне колькасьці загатовак збожжа прымала такія катастрафічныя памеры, што зьяўлялася перашкодамі для разьвіцьця ўсяе народнае гаспадаркі. Вясковае кулацтва разам з гарадзкім спэкулянтам імкнулася сарваць хлебанарыхтоўкі і дзяржаўную політыку цэн.

Партыя адказала на кулацкія атакі мобілізацыяй сваіх сіл, абаперлася на вясковую беднату і надзвычайнымі мерамі супроць кулака дамаглася пералому ў ходзе нарыхтовак збожжа. У выніку была нарыхтована колькасьць хлеба, патрэбная для забесьпячэньня спажывецкіх раёнаў, Чырвонай арміі нормальнай работы прамысловасьці. Удалося ўнікнуць перарастаньня хлебных недахопаў у агульнагаспадарчы крызіс. Яшчэ больш востры характар прынялі хлебанарыхтоўкі ў 1928—1929 годзе. У паўднёвых раёнах Саюзу быў неўраджай. Больш 4 мільёнаў гектараў азімай пшаніцы загінула на Украіне. Кулакі і спэкулянты ўлічылі нашыя цяжкасьці. У сваёй барацьбе супроць дзяржаўных цэн на хлеб кулакі выкарыстоўвалі ўсе нашыя драбнейшыя недахопы і памылкі. Наш апарат займаўся нарыхтоўкамі збожжа ў парадку самацёку. Увосень, калі хлеб у вялікай колькасьці паступае ад малазаможнага насельніцтва вёскі, нарыхтоўчы апарат займаўся толькі прыёмкай. Нарыхтоўчы апарат ня вывучыў сялянскія гаспадаркі і апынуўся перад вялікімі цяжкасьцямі, калі кулак адмовіўся прадаваць хлеб





Шупам прабуюць якасьць пшаніцы, прывезенай на элеватар.

Трактары на палёх савгасу „Гігант".

пролетарскай дзяржаве. Дзяржаўныя і кооперацыйныя нарыхтоўчыя органы, замест таго, каб апіраючыся на бядняцка-серадняцкую грамадзкасьць, арганізаваць селян для продажу хлеба,— заняліся конкурэнцыяй. Гэта стварала ў сялян няўпэўненасьці здолее дзяржава да канца вытрымаць свае цэны на хлеб, а таму кулаку часта і ўдавалася пераконваць серадняка ўстрымацца з продажам хлеба дзяржаве.

Вясною 1929 году мы ўжо не маглі нормальна забясьпечыць гарады хлебам. У новых хлебных перашкодах выявіўся сапраўдны твар правай опозыцыі ў партыі. Замест барацьбы і перамогі над гэтымі часовымі перашкодамі, опозыцыянэры запрапанавалі імпо таваць хлеб.

Пайсьці па лініі правай опозыцыі — азначала капітуляваць перад кулаком. З гаспадарчага боку гэта азначала дадатковае выдаткаваньне валюты. З палітычнага боку гэта азначала скарачэньне тэмпаў індустрыялізацыі, адмаўленьня ад падвозу абсталяваньня для фабрык і заводаў.

Партыя пайшла па другім шляху. Партыя зноў мобілізавала свае сілы, абаперлася на бядняцка-серадняцкія сілы вёскі і пры іх дапамозе зламала супраціўленьне кулака і забясьпечыла рабочыя раёны, армію і буйныя цэнтры хлебам. Партыя здолела ня толькі вырашыць збожжавую проблему на бліжэйшы год, але стварыць вялізарны перапом у разьвіцьці сельскай гаспадаркі нашае краіны.

Гэты перапом заключаецца ў тым, што за апошнія два гады колькасьць колгасьнікаў павялічылася прыкладам ў 20 раз, што колектывізаваны больш чвэрткі ўсіх сялянскіх гаспадарак Саюзу ССР.

Усясьветна-гістарычнае значэньне гэтага перапому вельмі вялікае. Гэты перапом азначае, што серадняцкая маса сьледам за беднатою зразумела перавагу буйнай колектывізаванай гаспадаркі і павярнула на новы соцыялістычны шлях. Гэты перапом азначае, што на падставе разгортаваньня колектывізацыі партыя здолела перайсьці да зьнішчэньня, да ліквідацыі кулацтва як клясы.

Чаму-ж адбыўся гэты перапом? Ён адбыўся ў выніку хуткага росту буйнай соцыялістычнай прамысловасьці, якая зьяўляецца крыніцай перабудовы сельскай гаспадаркі на рэйкі колектывізацыі. Ён зьявіўся ў выніку нашых вялікіх дасягненьняў у справе коопэраваньня сялянства, арганізацыі машына-трактарных станцый і разьвіцьця саўгасаў. Гэты перапом быў вынікам нашага рашучага наступленьня на кулацтва, вынікам перамогі хлебнай „забастоўкі“, арганізаванай кулацтвам.

Якія практычныя вынікі ўжо сёлета даў перапом?

Колгасы здолелі ня толькі цалкам запоўніць скарочаную засеўную плошчу кулака, але і значна пашырыць агульную плошчу засеву ў параўнаньні з мінулым годам. Упяршыню мы маем сёлета пад збожжавымі культурамі больш засеўнай плошчы, чым да вайны. Колгасы паказалі вялізарную перавагу буйнай вытворчасьці, ня гледзячы на тое, што коньмі і інвэнтаром яны былі забясьпечаны ня лепш вакольных сялянскіх гаспадарак. Надвор'е спрыяла ўраджаю. Але ня толькі гэтым тлумачыцца сёлетні добры ўраджай. Гэта відаць з таго, што ў саўгасах ураджай павысіўся супроць леташняга на 23%, у колгасах на 26%, а ў індывідуальных гаспадарках толькі на 5-6%. Значыцца, у павышэньні ўраджайнасьці яскрава сказаліся вялізарныя перавагі колектыўнай вытворчасьці над індывідуальнай.

Сёлетні ўраджай—першы колгасны ўраджай, бо ўпяршыню сёлета колгасы разам з саўгасамі дадуць нам асноўную частку таварнага хлеба. Гэта замест таго, што ў мінулыя гады хлеб у пераважнай сваёй колькасьці паступаў ад індывідуальных гаспадарак. Адсюль зразумела, чым розьніцца сёлетнія нарыхтоўкі ад нарыхтовак мінулых год. Калі раней асноўная частка хлеба паступала ад індывідуальных гаспадарак, дык сёлета саўгасы і колгасы павінны даць 60% таварнага хлеба.

Гэтыя посьпехі ў соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі ўжо выявіліся на хлебанарыхтоўках ліпеня—жніўня гэтага году. За першыя паўтара месяцы нарыхтовак толькі і колгасы і машына-трактарныя станцыі далі столькі хлеба, колькі летась за гэты час далі ўсе сельскія гаспадаркі разам узятыя. Аднак, ня гледзячы на ўсе гэтыя спрыяючыя ўмовы хлеба, нарыхтоўчая работа разгортваецца пакуль што зусім не здавальняюча.

Чым гэта тлумачыць? нездавальняючы ход збожжавых нарыхтовак тлумачыцца толькі слабасьцю работы нашых нарыхтоўчых, мясцовых партыйных коопэрацыйных і іншых арганізацый. Яны яшчэ ня здолелі разгарнуць належную масавую арганізацыйную і растлумачальную работу. Тлумачыцца гэта і тым, што многія, калі бачылі вялізарныя посьпехі сяўбы, лічылі, што хлеб сам прыдзе на нарыхтоўчыя пункты, загатаўляць яго ня трэба.

Зразумела, што наяўныя спрыяючыя ўмовы ствараюць поўную магчымасьць пасьпяховага выкананьня пляну хлебанарыхтовак.



Саўгас „Гігант“ гатовы да новых баёў за соцыялізм.

„Гігант“—першы разгарнуў бai за буйнае соцыялістычнае земляробства. Сьледам за ім вырасьлі дзесяткі і сотні новых саўгасаў, якія вучыліся на яго вопыце і практыцы.

На здымку: Элеватар саўгасу „Гігант“.



Новыя дамы пад кватэры для рабочых саўгасу „Гігант“.

Трактары ўвозяць з поля камбайнам абмалочаную пшаніцу.



Але людзі, якія хварэюць „надзеямі на самацёк“, забываюць, што для таго, каб мажлівасьць зрабілася сапраўднасьцю, трэба не сядзець, склаўшы рукі, а разгарнуць энэргічную бальшавіцкую работу па арганізацыі нарыхтовак збожжа.

Ня можна не даацэньваць тых перашкод, якія стаяць перад намі на шляху выкананьня хлебанарыхтоўчага пляну. Толькі правыя опортуністыя, якія фактычна зьяўляюцца агентамі кулацтва ў асяродку партыі, могуць „ня бачыць“ лютага супраціўленьня клясавага ворагу хлебанарыхтоўкам. Толькі політычна сьляпыя людзі могуць думаць, што кулак ужо ніякай небясьпекай не зьяўляецца. Яшчэ ў пастанове ад 26 ліпеня 1930 году ЦК УсеКП папярэдзіў аб тым, што „ня гледзячы на значнае аслабленьне кулацтва ў выніку посьпехаў колектывізацыі і політыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, кулак усё яшчэ захаваў значную сілу ў шэрагу раёнаў, у асаблівасьці ў раёнах з нізкім процантам колектывізацыі“.

Нашыя клясавыя ворагі—кулацтва, спэкулянты і антысавецкія элемэнты разгортваюць ліхаманкавую, шырокую шкодніцкую работу, накіраваную на зрыў нарыхтовак. Мы мелі выпадкі падпалу колгаснага ўраджаю. Кулакі распаўсюджваюць усякія контррэволюцыйныя чуткі. Кулакі прабуюць націскаць на найбольш адсталую частку колгасьнікаў, угаварваюць іх не прадаваць дзяржаве хлеб, штурхаюць іх на спэкуляцыю хлебнымі лішкамі. Кулакі ўсяляк прабуюць распаўсюдзіць свой уплыў на нізавы савецкі коопэрацыйны і нарыхтоўчы апарат, імкнуцца правесьці туды сваіх прыхільнікаў.

Перад тварам гэтага шалёнага супраціўленьня клясавага ворага ўсякая стаўка на „самацёк“ у хлебанарыхтоўках і ўсякая недаацэнка клясавых цяжкасьцяй сучаснай хлебазагатоўчай кампаніі—гэта опортунізм, які ўзмацняе ўплыў кулацтва ў вёсцы. З гэтымі опортуністычнымі настроямі трэба весьці самую лютую барацьбу, бо выкананьне вызначаных нарыхтоўчых плянаў мае вялізарнае гаспадарча-політычнае значэньне для ўсяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Ад таго, колькі мы нарыхтуем хлеба, будзе непасрэдна залежыць хуткасьць росту цэлага шэрагу галін нашай народнай гаспадаркі, будзе ў значнай меры залежыць выкананьне тэмпаў, вызначаных пяцігодкай па лініі індустрыялізацыі краіны.

Пакуль у нас яшчэ не пабудавана патрэбная колькасьць трактарных заводаў, мы прывозім трактары з-за мяжы ў абмен на нашы тавары. Выкананьне хлебанарыхтоўчага пляну дасьць нам мажлівасьць ня толькі забясьпечыць краіну хлебам, але і аднавіць вываз яго за мяжу для закупкі там трактараў і абсталяваньня для заводаў—волатаў, якія мы пачалі будаваць.

У нас, на Беларусі, вялізарнае гаспадарча-політычнае значэньне мае выкананьне плянаў нарыхтоўкі бульбы. Буйнейшыя пролетарскія цэнтры—Масква, Ленінград, Тула чакаюць нашае бульбы. Выкананьне плянаў ускладняецца тым, што з прычыны недахвату рабочае сілы амаль палова бульбы ў першай палове кастрычніка яшчэ ляжала ў зямлі. Рабочыя беларускіх гарадоў і мястэчак пайшлі на дапамогу ў колгасы. Лёзунг—ніводнага коласу не пакінуць на полі, ніводнай бульбіны ў зямлі—павінен быць выкананы.

Колгасьнікі павінны паказаць прыклад сваячасовым і поўным выкананьнем сваіх задач. Колгасы зьяўляюцца сапраўднай і магутнай апорай савецкай улады ў вёсцы. Урад хуткімі тэмпамі пашырае старыя і будуе новыя вялізарныя заводы сельскагаспадарчых машын для колгасаў. Савецкая ўлада ўсяляк дапамагае колгасам палёгкамі і крэдытам.

На ўсе гэтыя клопаты пролетарскай дзяржавы колгасы павінны адказаць прыкладным выкананьнем сваіх абавязкаў перад дзяржавай па продажу ёй хлеба. Колгасьнікі павінны быць першымі ў соцыялістычным спаборніцтве на найбольш хуткую здачу сваіх хлебных лішкаў дзяржаве.

Ня можна ні ў якім разе забывацца пра індывідуальны сэктар сельскае гаспадаркі, які займае 40% агульнага нарыхтоўчага пляну. Гэты сэктар зьяўляецца найбольш слабым вучасткам хлебанарыхтоўчага фронту. Аднаасобнікі павінны выканаць плян хлебанарыхтовак не пазьней колгасьнікаў. Плян хлебанарыхтовак павінен быць даведзены да кожнага двара. Трэба шырока популярызаваць пастановы ўраду адносна прэм'яваньня тых, хто здае хлеб дзяржаве. Трэба выкарыстаць усе сродкі і мэтоды агітацыі для найбольш шырокага растлумачэньня кампаніі.

Тысяча тон чыгуну і сталі, мільёны конскіх сіл электрастанцый яшчэ не вырашаюць лёс пяцігодкі. Выкананьне яе ў значнай меры вырашаецца на фронце хлебанарыхтовак. Весткі з гэтага фронту пакуль што трывожныя. Будзем біць трывогу, клікаць на ліквідацыю прарыву.

У барацьбе за хлеб наша сіла—у колёнах трактараў Сталінграда і „пуцілаўца“, у сельскагаспадарчых машынах сельмашаў. Таму кожная вытворчая перамога гэтых волатаў—удар па кулаку, крок да соцыялізму.

Будзем памятаць—„Барацьба за хлеб—барацьба за соцыялізм“.

Л. Т.



„Гігант“—ня толькі фабрыка збожжа. Ён—вялізарная школа соцыялістычнага буйнага земляробства. Вось чаму саўгас зьвяртае шмат увагі культурна-бытавому абслугоўваньню сваіх рабочых, якія багата выкарыстоўваюцца іншымі саўгасамі.

На здымку: У саўгасе „Гігант“ будуецца школа—сямігодка.



Пад лёзунгам: „100% выкананьне плянаў па заворваньні зямлі пад зябь“.

Уступілі ў калгасы новыя тысячы гаспадарак.

Амаль ў два разы больш, чым летась, сёлета сабрана цукровых буракоў.

На здымку: Здаюць буракі на заводзе.





# Ворагаў твар



Нарыс БЯЛІНЫ-ПАДГАЕЦКАГА. Застаўка М. Б.

ЦАРСКІ ўрад вельмі добра разумеў, што толькі адным крывавым тэрорам рэвалюцыянэраў не напужаеш, рэволюцыі ня сунімеш. І тады ў габінэтах царскіх міністраў зароджваецца думка паспрабаваць арганізаваць на фабрыках жоўтыя рабочыя саюзы (саюзы, што былі пад кіраўніцтвам і пад кантролем паліцыі) і імі падрываць рэволюцыю знутры, расьсяваць нелады ў рэволюцыйных шэрагах, дыскрэдытаваць у рабочых масах аўторытэт іхных правадыроў. Так зьявілася на Расійскай глебе спэцыфічная расійская рознастайнасьць так званага паліцэйскага „соцыялізму"—вядомая „зубатаўшчына" (паводле імя жандарскага ротмістра Зубатава—першага організатара жоўтых рабочых саюзаў на фабрыках ды заводах).

Зубатаў бярэцца за організацыю „рабочых гурткоў" на фабрыках ды на заводах. Ён вярбуе да свае работы спрактыкаваных провокатараў, спрактыкаваных здраднікаў. І сярод апошніх далёка не апошняе месца займалі папы—у тым ліку і поп Гапон, які таксама пачаў сваю провокатарскую кар'еру менавіта пры Зубатаве.

Зубатавы хітрыкі не дасягнулі свае мэты. Рабочыя хутка раскусілі ў чым сутнасьць усіх гэтых папоўска-жандарскіх махінацый. Яны вельмі хутка адышлі ад паліцэйскага „соцыялізму" бліскучага жандарскага ротмістра.

Зубатаўскія правлленыя жоўтыя саюзы падмяняюцца царскаю ахранкаю і папом Гапонам—зубатавым вучнем. Гапону ўдаецца яго провокаторская работа на пуцілаўскіх заводах Пецярбургу. Рабочыя яшчэ вераць Гапону, яшчэ ідуць за ім. Што-ж прапаведвае поп Гапон рабочым. Рэволюцыю, барацьбу з самаўладзтвам, утварэньне свае ўласнае пролетарскае дзяржавы? А вось паслухаем.

— Ня трэба рэволюцыі, ня трэба гвалту,—кажа Гапон на рабочых сходах, што рабіліся ім з дапамогаю ахранкі.—Цар-бацюшка ня ведае нашага гора, ён ня ведае, як цяжка жывецца рабочаму чалавеку. Нядобрыя людзі, што абкружаюць яго, не гавораць яму горкае праўды пра цяжкае матэрыяльнае становішчае рабочае клясы. Трэба ісьці да цара — ісьці пакорна з протэсамі ды з абразамі... І ен—наш цар, пачуе плач свайго народу.

Так гаварыў рабочым поп Гапон. А ў той час царскія артылерыстыя набівалі карцеччу гарматы, кавалерыстыя вастрылі шашкі, пехацінцы штыхі. Цар-бацюшка рыхтаваўся на Дварцовым пляцы ў Пецярбурзе сапраўды, каб „па-бацькаўску" сустрэць рабочых.

Рэшта добра вядома. Гром гармат на Дварцовым пляцы заглушыў мальбу рабочых. Тысячы забітых, каля дзьвюх тысяч параненых, гібель арыштаваных—вось што дала крывавая нядзеля 9 студзеня 1905 году.

Расстрэл на Дварцовым пляцы ў Пецярбурзе няўзброенае дэмонстрацыі рабочых паслужыў сыгналам да рэволюцыі 1905 г. Гэты расстрэл паказаў рабочым сапраўдны твар крывавага цара і „хрысталюбівага" духоўніцтва. Гэты расстрэл назаўсёды разбурыў у вачох рабочых лягенду пра царову „дабрату", пра царову „літасьць". А поп Гапон пасьля студзенскіх расстрэлаў уцёк з дапамогаю ахранкі за мяжу. Пасьля ён быў павешаны рэволюцыянэрамі як провокатар.

Як-жа аднеслася праваслаўная царква да студзенскіх расстрэлаў? Ці абсудзіла яна іх, ці знайшла ў сабе сілу стаць на абарону зьверскі забітых царскімі апрычнікамі рабочых? Выпісы з некаторых дакумантаў эпохі цалкам паказваюць нам гэта.

— „У сталіцы і ў іншых гарадох Расіі пачаліся стачкі рабочых і непарадкі на вуліцах,—пісалі „сьвятыя айцы" ў сваёй адозьве да „народу расійскага" (пасланьне Сіноду ад 14 студзеня 1905 году надрукаванае ў „Правительственном Вестнике".

— Людзі расійскія, адвеку праваслаўныя, ад лет дрэўных прывыкшыя стаяць за веру, цара і бацькаўшчыну, падбухтораныя людзьмі зломернымі, ворагамі бацькаўшчыны сваімі і замежнымі дзесяткамі тысяч пакідалі свае мірныя заняткі, наважылі гуртам і гвалтам дамагацца сваіх нібыта забароненых правоў.

І там-жа далей: „Непарадкі, што адбыліся, зроблены подкупам з боку ворагаў Расіі і ўсялякага парадку... Сьвяцейшы Сінод, хварэючы за пагубныя настроі ў сучасным жыцьці расійскага народу, імем сьвятое мацеры-царквы праваслаўнае ўмольвае ўсіх чад сваіх: бога бойцеся—цара шануйце".

Што можа быць ясьней?

А вядомы мракабес мітрапаліт Антоні (цяпер у эміграцыі, і кладзе ўсе сілы на тое,—каб хутчэй нацкаваць капіталістых Захаду з вайною на нас) у сваім казаньні да рабочых Пуцілаўскага заводу між іншым казаў: „калі вы не пакаецеся, дык усе таксама (г. зн. ад куль царскіх апрычнікаў) загінеце".

Характэрна, што царкоўнікі і рэакцыянэры ў 1905 г. прабавалі растлумачыць расійскую рэволюцыю толькі інтрыгамі чужаземных дзяржаў супроць Расіі. Яны распушчалі чуткі, што нібыта Японія, што тады ваявала з Расіяй на Далёкім Усходзе, падкупіла расійскіх рэволюцыянэраў за 18 мільёнаў рублеў. Як нагадвае ўсё гэта другую ня менш брудную выдумку, пушчаную папамі і рэакцыянэрамі ўжо ў 1917 годзе, пра плёмбаваны вагон, пра нямецкае золата і іншае глупства.

У рэволюцыю 1905 году праваслаўнае духоўніцтва было цалкам на баку цара і капіталістых. Сваімі пагромнымі лістоўкамі, сваімі казаньнямі з амбоні, сваімі злоснымі выпадамі супроць рабочых і рэволюцыянэраў яно змагалася поруч з царом, поруч з абшарнікамі супроць рабочых. супроць „чырвонае крамолы".

— Памятай хрысьціянін,—пісаў сьвяцейшы (ці як тады яго звалі, падлейшы) Сінод у сваей адозьве ад 28 кастрычніка 1905 г. (у самы разгар рэволюцыі),—што сэрца царова ў руцэ божай і што павінен падпарадкавацца цару ня толькі страхам, але і сумленьнем.

Але царква не абмяжоўвалася толькі словамі, толькі адозвамі. Мітрапаліт Уладзімір (таксама цяпер у эміграцыі) 16 кастрычніка 1905 г. зьвярнуўся да свае маскоўскае „паствы" з пасланьнем, у якім адчынена заклікаў „народ праваслаўны" да расправы з соцыялістымі ды рэволюцыянэрамі. А праз два дні пасьля гэтага пасланьня быў забіты чорнасоценцамі т. Бауман—адзін з рэволюцыйных правадыроў маскоўскага пролетарыяту. Папы і паліцэйскія, каб змагацца з паўстаўшымі рабочымі пастаўлялі кулямёты на званіцах „сьвятых храмаў божых", страляючы адтуль па дэмонстрантах. Так от у кастрычніцкія ды ў сьнежанскія дні 1905 году ў Маскве па рабочых стралялі кулямётамі са званіц Страстнога манастыра, з званіцы царквы на Прэсьні і з іншых.

Абнагленым гудам сустракала папоўшчына крывавую расправу цара з арыштаванымі рабочымі рэволюцыянэрамі.

— У Пецярбурзе за тры дні арыштавана каля 500 дэмакратаў—пісалі ў сваіх газэтах папы ў 1905 годзе.—Добра, што паліцыя арыштоўвае нягодных людзей. Яшчэ лепш было-б, каб яна іх больш вешала...

І цар не забыў паслуг сваіх верных псоў. Шмат папоў было ўзнагароджана рознымі ордэнамі, падвышэньнямі па службе і грашовымі падарункамі за паслугі царызму на фронце актыўнае барацьбы з „чырвонаю крамолаю".

# На хадніку



**Апавяданьне С. ПІ ЛІПЭНКА**

**Малюнкі Я. Розанава.**

I.

ДА паловы лытак бачыў людзей Міхайла, дый і тое толькі т ды, калі блізка прысунуцца да ва на і высока падняць галаву. А здалёк з нізкага зэдліка, дзе ён заўсёды сядзеў, кешкаючыся ў сваёй працы, відаць было толькі самыя чаравікі.

Раніцой, як толькі разьвіднялася, рэхам тупалі па хадніку важкія чобаты, і мятла дворніка падымала ўедлівы пыл. Да Міхасёвага ваконца прыліпалі брудныя палосы гэтай пылюгі, і грубая мятла скавытліва драпала шыбкі, вырэзваючы на іх дзівосныя рысункі. Віхарам мчаліся на паўшыбах патоптаныя акуркі, папаленыя сярнічкі, шматкі падранай паперы.

Тады-ж цьвёрдым шыро ім крокам мералі хаднік адзін за адным простыя чобаты. З гру ай шкуры, шырokаносыя, ёмкія, каб нaзе ў анучах ня муляла.

Над паўсонным горадам заклікалі на працу сваім ровам гудкі: раз, другі і недзе ў далечы замірала рабочая хада—і Міхайла зноў сядаў на свой столак, які быў пад склепавым вакном.



Паўз яго хуткай, дробнай хадой тупалі нязграбныя чаравікі наймічак-кухарак, каб праз гадзіну паволі вяртацца дамоў, налягаючы на нагу ад цяжару пакупак.

Сярод гэтых нізкіх, плюскатых чаравікаў Міхайла часам заўважаў высокі абсац з выгінамі, і яго твар нахмурваўся.

— Не да нагі дзяўчынка купіла, не да нагі...не па тэй сьцежцы ідзеш...

Але ў вясёлую ўсьмешку расплываўся твар тады, калі вясёлай нястрыманай гурбой, выпераджаючы адзін аднаго, тупаў дзёрзка дзіцячы абутак. Усялякіх колераў, усялякіх фасонаў, усялякіх аб'ёмаў. Вось парваныя чаравічкі, гузікі баўтаюцца, побач чысьценькія пантопелькі, паўбоцікі крочаць разам з здаровымі чобатамі, насы дагары, бо, відаць, бацькаўскія, надта ўжо вялікія.

— Разам, разам, дзеткі не разыходзьцеся, сябруйце, — сантымэнтальна шапоча Міхась. Самотнік ён, і, як усе самотнікі, прывык сам да сябе бурчэць, хаця яшчэ і не стары.

Перабеглі жвавыя ножанькі вучнёўскія. Зашоргалі сваім абуткам ураддоўцы. Амаль што ўсе на адзін фасон, купляліся ў тых самых крамах, у крэдыт. На нізкіх пакрыўленых абсацах з растоптаным, плюскатым перадам. тонкай выцертай падашвой. Паміж імі танны. рознастайны жаночы абутак службовак. Рэдка трапяцца кокетлівыя высокія паўчаботкі, пантопелькі лякеркі, шэрая замшавая скурка.

Сквапнай хадой прайшлі службоўцы. Пауза. Міхась доўга аб чымсі думае, і ўвесь пануряецца ў сваю працу, пакуль нешта не затуляе вакна.

— Во, зноў той беленькі калматы сабачка задраў ножку, фарсістыя сап'янавыя чаравікі яго ўласьніцы сарамліва спыняюцца. Нябачная рука нэрвова торгае ланцужок.

— Павылазілі ўжо сабакі з гультаямі на шпацыр,— сярдуе Міхась і дадае іронічна: — хто каго водзіць?

Незабаве хаднік зноў ажыўляецца перабегамі шкалярскіх зграек, далей зноў шоргаюць дамоў службоўцы—і Міхась ведае, што ўжо час абедаць.

Па абедзе на хадніку ніякай сыстэмы. Побач з чобатамі з звонкімі астрогамі зьяўляецца дамскі жоўты чаравік. За імі плюхаюць чыесьці старэчыя шлёпанцы, нібы коўзаючыся па асфальтаваму хадніку. Насустрач павольнаю хадой выварочваючы



— І навошта гэта ружовыя? Людзей на юрлівыя думкі наводзіць. Вядома чаму, мода на такое пашла—пад голае цела. Эт!

Сярдзіта штрыкнуў шылам у скуру, аж тая чмякнула.

Стаяць чорныя чаравічкі з ружовымі панчошкамі, чакаюць штосьці задуменна на хадніку, носікам падкідваюць. Чакае і Міхась, адлягло ўжо яму. Вось чобаты прыйдуць, пасьля доўгага перапыну ўзрадуюцца, нагалубяцца.

І сапраўды неўзабаве штосьці засьціла сьвет. Шавец падымае галаву, пільна ўгледжваецца, высока падымае калматыя бровы.

Гэта ня чобаты, нейкія жоўтыя касаносыя амэрыканкі спыніліся за вакном, над імі прасаваныя нагавіцы, кароценькія, модныя. Каляровыя, паласатыя шкарпэткі з-пад іх вызіраюць.

Чаму яны насупроць чаравікаў спыніліся. Хіба знаёмыя, мусіць знаёмыя, бо ўжо з імі побач пайшлі і чаравічкі.

Але задумаўся Міхась, нахмурваючы чало.

Глядзіць і на другі дзень: зноў выбеглі чаравічкі, тупаюцца неспакойна каля вакна, а за якую часіну да іх зноў доўгія амэрыканкі сунуцца. Зноў ногі побач з нагамі кудысьці ад вакна. Калі вяртаюцца—ня відаць.

А ў нядзелю замест іх спыніліся наваксаваныя чобаты, пастаялі хвілінку, рэзка павярнуліся і сквапна пайшлі прэч у другі бок.

Прыкра зрабілася Міхасю. Ніколі да гэтага ня чуў скуранага паху сваёй майстэрні, а тут адразу адкуль ні ўзялася духата, аж за горла хапае. Як ён ненавідзіць гэтыя касаносыя амэрыканкі—як свайго ўласнага ворага. Так-бы і плюнуў на нахабную жоўтую скуру. Так-бы і кальнуў пад бок іх шылам, каб ня лазілі тут пад вакном.

Але і на чорныя чаравічкі ўжо ня так прыхільна пазіраў шавец. Уласна не чаравічкі, а ружовыя панчошкі злавалі яго, як прыскам засыпалі вочы...

І якой злой радасьцю ўзрадваўся ён, калі аднойчы кудлаты сабачка, раптам забрахаўшы, сваім гаўканьнем укусіў за ружовую панчоху. Чаго, маўляў, спынілася, дзе ня трэба. На назе струмочкам зачырванела кроў. Яе рыжаватая палоска засталася і потым на панчосе, пачынаючыся ад сьвежага, ружовымі ніткамі шытага рубца.

— Так табе і трэба,—злосна казаў шавец, – не вадзіся з гэтым кодлам. Маеш за гэта!

Таксама цешыўся ён, калі чаравічкам усё больш і больш даводзілася чакаць, калі набрыдлыя амэрыканкі іншы раз зусім не паказваліся. Можа зусім адчэпяцца.

А тым часам восень ціха плакала густымі, халоднымі сьлязьмі, пакрываючы хаднік ліпкай склізьзю. Рэдка выпадаў ясны, сонечны дзень, даруючы людзям апошнія цёплыя ласкі.

І вось у адзін з такіх сонечных дзён Міхайла выпрастаў сваю пахілую сьпіну: сёньня больш ня будзе працаваць. Задумечна пазірае ў вакно, асьветленае касым праменьнем сонца. Які супакой апаноўвае душу. Трэба адчыніць фортачку, удыхнуць у атручаныя лёгкія сьвежага паветра.

Раптам нібы хтосьці каменем шпурнуў у студню—нахабна выступаюць прад вачыма жоўтыя амэрыканкі а, побач... побач, замест знаёмых чорных чаравічкаў шкандыбаюць на высокіх францускіх абсацах нейкія лякеркі.

— Не знайшоў іншага месца шпацыраваць, лабатрос,—торгнуўся Міхась так, што вядзёрка з варам перакінуў. Пацёк ён па падлозе чорнай, ліпкай вужакай.

А праз хвіліну ўгледзеў Міхайла за вакном чорныя чаравічкі. Кінуліся яны хутка ўперад, зноў адступілі, пастаялі ў горкім задуменьні—і патупалі сумна наўздагон...

Прайшла пані з кудлатым сабачкам. Нейкі пёс хацеў яго панюхаць, сабачка перапалохана завішчэў, пані піхнула пса парасонам. Падагнуўшы хвост, зьнік...

Доўга ня бачыў пасьля таго Міхась сваіх знаёмцаў. Вызіраў і раніцай, і ўдзень, і ўвечары—няма: можа зрабіла сабе што? А можа нанялася ў іншае месца? Мабыць, што так, бо дагэтуль ужо напэўна пабачыў-бы яе.

А далей усё менш турбаваўся, радзей успамінаў, і зусім ужо з памяці пачала яна зьнікаць. Яе месца занялі іншыя ўражаньні, іншыя падзеі.

Зіма лёгкім марозам пакрыла ваконца, пакрыла белым шэранам хаднік, ногі схаваліся ў галёшы—менш разнастайнасьці, менш інтарэсаў для Міхася.

Але і паміж тысячы ног ён пазнаў-бы гэтыя, у ружовых панчохах з рубцом, з ледзь паметнай рыжаватай палоскай.

Вось аднойчы прышлі яны да акна. Вось падышлі да іх нейкія парваныя вялікія галёшы, пашлі побач, зьніклі... Мінула гадзіна. Бачыць Міхась, зноў знаёмыя панчохі. Ходзяць туды і сюды. Зноў у пары з нейкімі чобатамі па рыпу. Зьніклі...

Электрычнае сьвятло парусам ўрываецца ў цёмную майстэрню, адкідвае доўгі цень ад панурай постаці калекі шаўца.

Вочы яго закрыты. Вусны па звычцы шапочуць даўно завучаныя словы:

— Барацьба ахвяраў немалых вымагае.

Хаднік парожні. Позьняя ноч.

**Пераклаў з украінскае П. Б**

# Залатая справа

парыс МАЦЕЯ РОЙЗМАНА

На ўскраіне Менску ёсьць тры вуліцы Лекерта. Мне трэба было на трэцюю вуліцу Лекерта ў „Чырвоны лаечнік“ і каб мне ня зблудзіць, дык мяне сустрэў таварыш з арцелі.

Я зразу пазнаў у ім таго чалавека, з якім мы два тыдні таму назад слухалі, як яўрэі маліліся каля сьцен сынагогі на Ракаўскай, вітаючы новы месяц, што вісеў цытрынаваю скарынкаю над іх галовамі. Радзянскі—высокі сутулаваты, нэрвовы чалавек з вострым тварам зваў майстэрню „чырвонага лаечніка“—фабрыкаю, сябе—дырэктарам і, паважаючы гэтага энэргічнага работніка, я так і пакінуў гэтыя тэрміны.

— Вы бачыце вунь тую разбураную хату?—запытаўся дырэктар, паказваючы пальцам на домік, што стаяў каля Сьвіслачы.—Гэта наша даўнейшае памяшканьне. Мы сядзелі ў ім два гады і як мы высядзелі—дык проста дзіва бярэ. У новым памяшканьні мы яшчэ толькі тры месяцы. Вы паглядзеце, як мы абсталяваліся і што мы робім.

Мы перайшлі мост, павярнулі і ў вароты фабрыкі і направа паказаўся пладовы сад убелены сьнегавою шапкаю вішнёвага і яблынавага цьвету. У гэтым садзе саматужнікі адпачываюць па перапынках; даглядаюць сад і сур'ёзна клапоцяцца, каб ні ягады, ні садовіна не прапала з галін, пакуль пасьпеюць. Вось і фабрыка. Яна складаецца з некалькіх будынін і прыбудовак—каменных і драўляных, старых і толькі што пабудаваных. На фабрыцы працуе сто чалавек. Сярод бывалашніх саматужнікаў ёсьць нямалы процант такіх рабочых, што прышлі з дзяржаўнае вытворчасьці—рабочых-профсаюзьнікаў, і гэта кладзе асаблівы адбітак на „Чырвонага лаячніка“. У попельні (цемнаватае памяшканьне, куды з складу ідзе скура) панавальвана сабачых скур. Сабачая скура вытворваецца ў бочках з чыстаю вадою. Саматужнікі кідаюць скуру вілкамі, стоячы па костачкі ў вадзе. На саматужніках няма спэцвопраткі, на нагах—боты, але боты прамакаюць, і лічыцца, што ў зольні набыць раматуз можна як бач. З бочак скура ідзе ў бэтонныя чаны, купаецца ў замешцы вапны і сарчыка, праз дзесяць дзён шэрсьць са скуры вылазіць і скура робіцца лысаю. Пасьля гэтага скуры выцягваюць на кабылках, з іх здымаюць тупым нажом мяздру і зганяюць дачыста шэрсьць. (У Сьмілавічах бочкі і чаны, кабылкі і людзі былі загнаны і сьціснуты ў брудную дзірку, усе процэсы зьліваліся ў адну мешаніну, відны былі змарнелыя, паедзеныя потам твары і жоўтыя ад дубовага экстракту, ці чорныя фарбы рукі). У попельным цэсе працуе адзінаццаць чалавек, **усе яны складаюць вытворчую комуну і ў іх адзіная разьліковая кніжка**. Уся агульная месячная зарплата дзеліцца на адзінаццаць частак, кожны атрымлівае роўную частку, і гэты социялістычны прынцып падзелу працы, што нядаўна зьявіўся на дзяржфабрыках, мяне зьдзівіў.

— Мы працуем комунаю чатыры месяцы,—кажа Пекер, брыгадзір комунараў—саматужнікаў.—Зарплата падвісілася ад 120 да 140 рублёў. На 50% зьнізілі сабекошт. Нядаўна ў попельню паступіў даўнейшы вартаўнік. Раней ён атрымліваў мала, а цяпер прарабіў 2 месяцы і атрымаў нараўне з усімі.

У комуне шасьцёра даўнейшых рабочых, яны рабілі ў прыватніка, а калі прыватная вытворчасьць зачынілася, дык падаліся ў арцель. Дырэктар фабрыкі з непадробнаю радасьцю слухае маю гутарку з Пекерам і дадае:

— Усе „Чырвоныя лаечнікі“ застрахованы. Яны атрымліваюць продукты як рабочыя.

— Але на біржу нас яшчэ ня прымаюць,—устаўляе рэпліку нейкі попельнік і конфузіць дырэктара—рабочыя, але ня зусім рабочыя.

Пасьля попельні шкура ідзе ў чан, дзе высокая тэмпэратура і курыны памёт мякчаць скуру, і адсюль пачынаецца процэс заплаву: скура мокне ў дубовых квасох рознае масьці. Пасьля



гэтага ў скуры няма вапны, няма тлушчы, няма жыўца, і скура накіроўваецца ў закройню. Пры мне закройнік кінуў на стол конскую скуру, выкройваў з яе боты, намеціўшы выразку тупою стамэскаю. З задняе нагі вышаў шчыгрын, гамбурская скура—на паўбарты і адно месца—плат. Павярнуўшы скуру на правы бок, ён выкраіў халявы і падклейкі. Выкрайкі пайшлі ў барабаннае адзяленьне, дзе ў барабане з самым моцным дубовым экстрактам яны зробяцца праз два дні чыстымі, мяккімі, і пухкімі.

— У гэтым адзяленьні адзін майстар і памочнік,—кажа дырэктар „Чырвонага лаечніка“. —Раней тут рабіла сем чалавек. Рацыяналізацыя...

І усё-такі скура пасьля барабану ня роўная. Каб канчаткова абрабіць перады, дык галоўная частка ботаў ідзе да волкарнікаў, якія абвясьцілі сябе ўдарнікамі. У валкарным цэху змазаная кароўім і машынным маслам зьмякчоная скура фальцуецца вострым фальц-нажом, уначы сушыцца і раніцаю, нацягнутая на драўляную форму (блёк) валкуецца спэцыяльным нажом. Яшчэ адна высушка. Перады на боты, што сядзяць на форме, выфарбуюцца і перададуцца далей.

Я заходжу ў пакой, дзе дафарбоўваецца чорны матэрыял, дзе на яго наводзіцца глянц спэцыяльнаю вадкасьцю, зьмешанаю з 96 градусным сьпірытусам. Дырэктар глядзіць на старэйшага закройніка, ківае галавою і ціха кажа мне:

— Што я буду з ім рабіць? Ён любіць чысты сьпірытус. Усе чорныя закройнікі гэта робяць. Я прабаваў дамешваць да сьпірытусу ўсялякія дрэні. Казаў: пасьлепнеце. Памагае, як нота Пільсуцкаму!

— Я ведаю ён пра мяне,—нечакана здагадваецца закройнік, і хутка падыходзіць да мяне.—Я сорак гадоў крою. А піў я добра! Што каму да таго? А таксама запытаюся: чаму мне за красавік яшчэ ня ўсё заплацілі?

Па дарозе ў шорную я заходжу ў машыннае адзяленьне. Машыністы беларус углядаецца ў мяне і раптам гаворыць, як добра знаёмаму:

— Учора заходжу ў краму па хлеб, а мне не даюць. Хлеба няма! Пайшоў у другую—хлеб ёсьць. Толькі я да гэтае крамы няпрымацованы. Не даюць!— Ён пакруціў вус і падміргнуў мне.—Я крыкнуў: „Што-ж я з Польшчы ці што прыехаў“. Падумалі дый далі.

Дырэктар падводзіць мяне да мэханізаванага калодзежа, які стаіць за сьцяною машыннага аддзяленьня.

— Вось і яшчэ рацыяналізацыя,—кажа ён.—Раней ваду пампавалі рукамі, плацілі па шэсьць рублёў за вядро. А цяпер вада сама ідзе па цэхах. Я нават ня ведаю, колькі тут эканоміі. Проста траціцца некалькі лішніх пален за дзень.—Ён ляпае рукою па напоўненым вадою і карою чане, што стаіць каля калодзежы.—А гэта таксама рацыяналізацыя.Тут буйная дубовая кара. Сяляне паляць ёю ў печы, а нам яна дастаецца задарма. Таксама задарма дастаецца нам і пара. Яна праходзіць праз чан, распарвае кару і з яе выцягваецца сок. Першасортны дубовы экстракт!

Дырэктар паказвае мне мэханізаваную карарэзку. Рушыцца яна пасам. Конусныя нажы рэжуць кару на дробныя часткі. Рабочы задыхаецца ад едкага пылу. Я бачу карацёрку, падобную да вялізнае мясарубкі, успамінаю пра сьмілавіцкую карацёрку-аграмадзіну, і расказваю дырэктару. Ён сьмяецца і паказвае мне, як даўней драбнілі кару: дошку з зубамі на адным канцы сярэдзінаю клалі на камень, чалавек націскаў нагою на канец дашкі, а зубы ўдаралі па кары, што падкладалася пад іх.

— А чаго не маглі падрабніць дошкаю, дык драбнілі молатам.

Шорнае аддзяленьне яшчэ адпачывае Старэйшы майстар есьць хлеб з селядцом на падстаўцы швальнае машыны. Я пытаўся ў яго, чаму ён не палуднуе ў сталоўцы, якая стаіць тут-жа пры клюбе „Чырвоны лаечнік". Ён кажа, што ён так прывык. Шорнікі мочаць валовую скуру ў алюмінявых квасцох, крояць гужы, шлеі, з аполак збрую. Сярэдзіна скуры тонкая, і скроіўшы яе сшываюць на машыне ў дубальт. Шорнікаў 28 чалавек. Яны добра зарабляюць і лічаць гэта заслугаванаю справаю:—

—Мы рабочыя вышэйшай кваліфікацыі,—кажа мне старэйшы майстар, наліваючы з імбрычка гарачае вады ў мой кубачак.—Мы старыя спэцы. Мы зробім тут такую ўдарную комуну—давайце толькі сыравіну!

— Але-ж гэта вам асабіста будзе нявыгадна?

— Нявыгадна? Хэ! Я от наліў сабе поўны кубак вады, а тады нальлю два трацякі. Усёадно на свае грошы мы ня будзем купляць чаю!

Сапраўды ўсе лаечнікі, чакаючы на казённы чай, п'юць гарачую ваду.

У другім пакоі ўжо пачалася работа.

Брыгада з васьмёх чалавек і з двума вучнямі профсаюзнае броні. рабілі хамуты, аброці, сёдлы. Я падыходжу да старога рабочага, што робіць клешчы.

— Цяжка напінаць плечы,—кажа ён, не кідаючы рабіць.—Я магу зрабіць і ўсю збрую, якую хочь. Вось мой пашпарт.—Ён паказвае свае далоні, на якіх я бачу старыя мазолі.—Дзевяць рублёў даюцца ня лёгка.

Каб стаць добрым шорнікам, дык трэба вучыцца пяць, шэсьць год. Вучань (па броні), за два гады, атрымоўваючы па 37 рублёў, зьбіраецца ісьці з „Чырвонага лаечніка". Майстры кажуць, што ў яго яшчэ дрэнная кваліфікацыя, а ён хоча зарабляць не па 37 рублёў, а ўдвая больш. Я пытаўся ў вучня і ён цалкам сьцьвярджае ўсё, што сказалі майстры і што на дзяржфабрыцы ён атрымае па 70 рублёў. (Гэты выпадак з вучнем-профсаюзьнікам ня першы. Арцелі добрасумленна вучаць вучня, аплочваюць яго працу, а яго, як воўка ў лес, заўсёды цягне з арцелі на дзяржвытворчасьць).

У толькі што адбудаваным клюбе пахне сьвежым цестам. На стале пук газэт. Дырэктар Радзянскі дастае адну.

— Мы сочым за жыцьцём,—кажа ён.—Вось тут надрукавана пра наш літаратурны вечар. Мы прыдзем!—Ён крочыць некалькі хвілін па пустым клюбе, пасьля націскае рукі і падымаецца на пальчыкі; нібы хоча падскочыць.

— Я павінен сказаць...—кажа далей дырэктар перадыхаючы.—Я павінен сказаць, што ў нас—залатая справа! Але не хапае скуры. Я хацеў адчыніць сыравінны лімарны цэх. Мы паказалі сваю работу. Я зьвязаўся з Белгандлем і з Белскурсындыкатам Яны згадзіліся даваць нам бяз пляну скурсыравіну сьвіней і сабак. Пасьля нас уключаць у плянавае забесьпячэньне.—Ён забегаў па клюбе, удараючы рукою па сталох і падымаючы пыл з газэт.—Мы спрабавалі рабіць каўняры і манжэты.

Кратовы набор у краме каштуе семдзесят рублёў, а ў нас выходзіць па сорак. Як вы думаеце, гэта справа?

— Чаго вы хвалюецеся?

— Сампрам ня хоча лімарнага цэху, ня хоча—і канцы!—І, паніжаючы голас да хрыпаты, усхваляваны дырэктар закончыў:—Я хацеў пайсьці з фабрыкі вучыцца. Тут адчыняюцца скураныя курсы. Мяне ўгаварылі пачакаць годзік-два. А цяпер я пайду. Ніхто не адгаворыць.

Але праз некалькі хвілін, праводзячы мяне па фабрычным двары, ён паказваў мне новы агнятушыльнік, расказваў пра фабрычную пажарную каманду, пра тое, як яму прышла ў галаву думка зрабіць на вышках два цэхі і клюб, а каля калодзежа душ для рабочых. Я думаю, што каб у гэты час ён загаманіў пра вучобу, дык яго—моцнага гаспадара „Чырвонага лаечніка"—зноў-бы лёгка ўгаманілі „пачакаць годзік два".





Яўрэі маліліся каля сьцен сынагогі на Ракаўскай, вітаючы новы месяц.

Малюнак БАРЫСА МАЛКІНА



# БЕЛАРУСКАЯ ГЕОФІЗЫЧНАЯ ОБСЭРВАТОРЫЯ

**НАРЫС**
**Г. МАСЛАКАЎЦА**

У ПРАЦЯГУ бліжэйшых год павінна ажыцьцявіцца практычнае пытаньне з пабудовай і адкрыцьцем Бел. Геофізычнай Обсэрваторыі.

Дасьледваньне і вывучэньне БССР з геофізычнага боку пачынаецца з 1925 г., калі былі зроблены першыя крокі з боку НКЗБ у сэнсе організацыі сеткі мэтэоролёгічных станцый, якія-б здавальнялі запатрабаваньням рэспублікі. Зараз мы маем у гэтым напрамку дасягненьні і маецца спэцыяльны цэнтр, які кіруе сеткай Мэтстанцый—гэта Белгеофіз (Беларуская Геофізычная Служба).

Неабходна адзначыць вялікую працу плянавай магнэсавай здымкі БССР, якая была організавана, распачата і вядзецца пад кіраўніцтвам проф. Е. Е. Сіроціна, загадчыка катэдры фізыкі пры Беларускай Акадэміі Навук.

Згодна пляну на працягу 1930-1931 г. каля Менску ў Сьляпянцы (каля с.-г. выстаўкі) павінен быць пабудаваны галоўны будынак Обсэрваторыі, а ў далейшым і дапаможныя жыльлёвыя будынкі для тэхнічнага, навукова-тэхнічнага і навуковага пэрсоналю, а таксама і павільёны для спэцыяльных прац. Пабудова Обсэрваторыі будзе каштаваць больш 500.000 рублёў.

Галоўны будынак Обсэрваторыі будзе мець 4 паверхні і па знадворным выглядзе мець форму як-бы паловы цыліндра (малюнак).

Геофізычныя навуковыя ўстановы ахапляюць сваёй дзейнасьцю вельмі шырокую галіну.

Бел. Геофізычная Обсэрваторыя, па пляну проф. Кайгародава, складаецца з 5 аддзелаў.

1. Аддзел Сеткі і Надвор'я, маючы майстэрню дакладных прыкладаў і інструмэнтарый па праверцы мэтэоролёгічных прыладаў, зможа забясьпечыць і правесьці навуковае афармленьне сеткі мэтэоролёгічных станцый, якія існуюць і павінны існаваць на абшарах БССР, каб задаволіць запатрабаваньням жыцьця. Шляхам друку і выданьня назіраньняў, Аддзел прадставіць матэрыялы для карыстаньня зацікаўленым установам.

Аддзел перадавой штодзенных прогнозаў (прараканьняў) зможа абслугоўваць шырокія колы насельніцтва.

II. Аддзел акціномэтрыі атмосфэрнай электрычнасьці.

Галіной дзейнасьці гэтага аддзелу зьяўляецца складаны комплекс праменьняў, якія дасылаюць сонца, неба і зямная паверхня, а таксама складаны малюнак электрычнага поля зямлі.

III. Аддзел прыкладной мэтэоролёгіі (мікроклімат, біоклімат і кліматографія).

У сучасны момант ня могуць задаволіць агульныя веды наконт сярэдняга ходу надвор'я—клімату. Задачы практыкі —павялічэньне ўраджайнасьці патрабуе ўстанаўленьне ўплыву мясцовых умоў—лясоў, балот, орографічных і гідролёгічных умоў рознага роду глеб, культурных умоў і г. д., а таксама выпрацоўкі мер змаганьня з рознымі няспрыяючымі мэтэоролёгічнымі фактарамі.

IV. Аддзел аэролёгіі і атмосфэрнай акустыкі.

Распрацоўка мэтодаў абсьледваньня руху паветравых плынь, тэмпэратуры, вільготнасьці паветра і г. д., як у ніжэйшых пластох, так і ў вышэйшых—на вышыні 8-10 кілёмэтраў дае магчымасьць і выклікае неабходнасьць сачыць за станам атмосфэры. Памянёны аддзел зможа скарыстаць мэтоды якія ўжываюцца ў аэролёгічных обсэрваторыях—зьмейкавы, зондавы.

V. Зямной магнэснасьці і сейсмомэтрыі. Вывучэньне магнэсавых элемэнтаў на тэрыторыі БССР.

Вось у самых агульных рысэх практычныя заданьні, якія ўваходзяць у круг працы Бел, Геофізычнай Обсэрваторыі і яе аддзелаў.

Обсэрваторыя зможа дапамагчы цэнтральным і мясцовым установам і органам па пытаньнях, якія маюць сувязі з яе компэтэнцыяй.

Яна дапаможа падвесьці навуковую базу пад плянавую работу ў сельскай гаспадарцы. Яна дапаможа выявіць і выкарыстаць у практычных мэтах курортна-кліматычныя асаблівасьці паасобных раёнаў рэспублікі.

У гэтым Обсэрваторыя выяўляе сваё значэньне, як рэспубліканскае ўстановы.

У далейшым пры разьвіцьці навуковай працы (вялікай колькасьцю дакладных замежных прылад адпавядаючых апошняму слову навукі яна ўжо забясьпечана, Обсэрваторыя зможа прыняць удзел у вырашэньні тых проблем, якія стаяць перад сучаснай геофізыкай.

У гэтым Обсэрваторыя набывае ня толькі значэньне Саюзнай, але і міжнароднай навуковай установы.

# ВОЛАТЫ ІНДУСТРЫІ




**Наверсе:** Дзесятычная армія ўдарнікаў Электразаводу ў Маскве ў дзень ударніка на ўрачыстым пасяджэньні ў вялікім тэатры даюць абяцаньне выканаць пяцігодку свайго заводу ў 2½ гады.

**Унізе:** Зборка новых болтарэзных варстатаў на заводзе па будаўніцтву варстатаў у Адэсе.





Керчанскі мэталёзавод імя Войкава першы з сэрыі заводаў гэтага тыпу, якія ў гэтую пяцігодку будуць пабудаваны ў СССР. На заводзе працуюць ужо тры домны. Магутныя паклады жалезнай руды на поўвысьпе забясьпечваюць завод таннай сыравінай.

**На здымку:** адзяваюць 10-цітонную „шапку“ на каўпэры трэцяй домны.



Турбіна, магутнасьцю ў 24000 кілёват на Чалябінскай дзяржаўнай электрычнай станцыі, якая пачала працаваць у Кастрычнікавыя дні 1930 г.

# ПА ФАШЫСЦКАМУ СУСЬВЕТУ















- Зgарэў найвялікшы ў сьвеце ангельскі дырыжабль Р 101.
- Дзяржаўны пераварот ў Аргентыне. Панцырнікі паўстанцаў на вуліцах Буэнос-Айрэса.
- На вуліцах Буэнос-Айрэса натоўп вітае новага прэзыдэнта Аргентыны генэрала Хозэм Урыбуры.
- Ангельскі дырыжабль Р 101 ля прычальнай мачты да катастрофы.
- Чэскія фашысты наладзілі нямецкі пагром у Празе.
- Заля нямецкага рэйхстагу перад пачаткам работ рэйхстагу. Для прыёму новых гаспадароў-фашыстых залю ўбралі і дэкаравалі па іх густу.

Выданьне Беларускага Выдавецтва.

Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

## АДКРЫТА ПАДПІСКА на 1931 г.

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ ПОЛІТЫКІ ЭКОНОМІКІ ГІСТОРЫІ КРЫТЫКІ

# ПОЛЫМЯ

X ГОД ВЫДАНЬНЯ

ДА ВЕДАМА СУПРАЦОЎНІКАЎ ПОЛЫМЯ

Рэдакцыя „Полымя“ захоўвае за сабою права скарачаць і рабіць зьмены рэдакцыйнага характару ў матэрыяле, які падыходзіць да друку ў „Полымя“.

Малазначныя рукапісы і вершы, няпрынятыя да друку, не захоўваюцца і ніякай перапіскі з аўтарамі гэтых рукапісаў рэдакцыя не вядзе. Рукапісы, прысланыя ў „Полымя“, павінны быць акуратна надрукаваны на машынцы і на аднэй старонцы ліста.

**Пад рэдакц.: А. МЕНСКАГА, Я. КУПАЛЫ, А. НЕКРАШЭВІЧА і М. ЧАРОТА**

## АДКРЫТА ПАДПІСКА на 1931 год

НА ІЛЮСТРАВАНУЮ ДВУХТЫДНЁВУЮ ЧАСОПІС

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

24 НУМАРЫ НА ГОД

**Адказны рэд. М. ЧАРОТ**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Савецкая вул., 79

ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:
Аддзел падпісных і пэрыодычных выданьняў Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва (Менск, Савецкая 79, тэл. 17-12); Цэнтральная Кнігарня БДВ (Менск, рог Ленінскай і Савецкай); усе гарадзкія аддзяленьні БДВ; аддзел падпіскі пэрыодсэктару ГІЗ-у РСФСР (Менск, Савецкая, 54); усе паштова-тэлеграфныя канторы і ўсе кніжныя крамы спажывецкіх таварыстваў Белкоопсаюзу.

Час. „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ПРАДАЕЦЦА ўва ўсіх кнігарнях БДВ, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выд. „Правда“, чыг. і пашт. кіёсках, газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

На год . . . . 3 р. —
На 6 м-цаў . . 1 р. 50 к.
На 3 м-цы . . — 75 к.

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ
15 КАП.

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

## 1931 год

**24** НУМАРЫ НА ГОД

ІЛЮСТРАВАНАЯ ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

**Адказны рэдактар М. ЧАРОТ**

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 79.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА

| На год | |
|---|---|
| 3 р. | — |

| На 6 м-цаў | |
|---|---|
| 1 р. | 50 к. |

| На 3 м-цы | |
|---|---|
| — | 75 к. |

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ **15 к.**

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** высьвятляе ў мастацкім слове і багатай ілюстрацыі рост і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу, рэконструкцыю народнае гаспадаркі, посьпехі індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шляхі культурнае рэволюцыі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** знаёміць чытача з рэволюцыйнымі падзеямі ўсяго сьвету, а таксама і з важнейшымі зьявішчамі сусьветнай эконом кі і культуры

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** зьмяшчае: апавяданьні, вершы, нарысы, падарожжы, фэльетоны, артыкулы з політычнага, эканамічнага, культурнага і мастацкага жыцьця, мастацкія навінкі, ілюстрацыі, рэпродукцыі карцін выдатнейшых мастакоў, а таксама гумарэскі, пароды, старонкі сатыры і гумару з адпаведнымі шаржамі і карыкатурамі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** адлюстроўвае ўсё бягучае жыцьцё мастацтва як савецкага, так і сусьветнага, найбольш буйныя зьявішчы літаратуры, тэатру і кіно.

Часопісь **„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** прадаецца ўва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выд-ва, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выд. „Праўда“, чыгуначных і паштовых кіёсках, газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР.

**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:** Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральная кнігарня БДВ, усе акруговыя аддзяленьні БДВ, кнігарні ЦРК, кіёскі контрагенцтва друку, Беларускае газэтнае бюро, усе паштовыя аддзяленьні, усе лістаносцы як у гарадох, так і ў вёсках, і асобы, якія маюць пасьведчаньні.

Менск, друк. імя тав. Сталіна. зак. № 1361. Галоўлітбел №1031.